КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 2 (323) ◂ 18 студзеня ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**ГЕНАДЗЬ ДРАЗДОЎ**

Стар. 14–15

**ДАНОС ЯК ФОРМА ПАЛІТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ**

Вера апазіцыйных палітыкаў у магчымасць данесці да выбарцаў свой варыянт праўды невынішчальная

Стар. 4

**РЭАБІЛІТАЦЫЯ ГЕРЭКА: ЗА І СУПРАЦЬ**

З-за настальгіі па эпосе Эдварда Герэка практычна сарваная 150-я гадавіна святкавання нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 года, менавіта так лічаць польскія правыя

Стар. 13

**БЕЛАРУСКАЕ КІНО ПЕРАД НОВАЙ ЗАГРУЗКАЙ**

Стар. 16

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**СВАЁЙ ПУЦЯВІНАЙ**

Успаміны Арсеня Ліса

▸ АД РЭДАКТАРА

# ЗАРОБАК — 700$, КІЛБАСА — 50$

Сяргей ПУЛЬША

**Мы жывем добра, а будзем жыць яшчэ лепш. Здаецца, год зараз не перадвыбарчы, але нам апошнім часам сталі шмат абяцаць. І найперш, нам абяцаюць падвышэнне заробкаў. Аж да 700 долараў у эквіваленце.**

Пра тое, што сярэдні заробак мае быць на ўзроўні 700 долараў, заявіў яшчэ напярэдадні Новага года міністр эканомікі Мікалай Снапкоў. У прамой лініі газеты «Рэспубліка» ён адзначыў, што ў 2013 годзе можна будзе падняць заробак у Беларусі да гэтай лічбы «без праблем». А 14 студзеня амаль пра тое ж заявіла на апаратыўнай нарадзе ў мэрыі Мінска старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама Жанна Рамановіч. Паводле яе слоў, ужо зараз у сталіцы сярэдні заробак значна перавысіў прагнозны паказчык у 500 долараў. Мінчукі, па яе дадзеных, зарабляюць зараз 635 долараў, а да канца 2013 года заробак вырасце да 750–770 долараў у месяц.

Узнікае толькі адно пытанне: адкуль беларускія ўлады возьмуць на гэта грошы?

Першы шлях самы добры і самы сумленны — зарабіць самім. Але з гэтым у нас вялікія праблемы. Па падліках незалежных эканамістаў, ВУП краіны склаў у 2012 годзе толькі паўтара працэнты. І ніхто не прагназуе, што ён у далейшым будзе расці. Хутчэй, наадварот — беларусам прадказваюць рэцэсію. Выгадны «растаральны бізнэс» накрыўся медным тазікам, а новых схемаў ад'ёму грошай у суседзяў цалкам легальным шляхам беларуская ўлада пакуль не прыдумала.




Што ж тычыцца продажу сваёй прадукцыі, то і тут Беларусь пахваліцца не можа. Нават паводле Белстата, складскія запасы прамысловасці на 1 снежня 2012 года склалі 23,22 трыльёна рублёў, або 2,7 мільярда долараў. Суадносіны запасаў гатовай прадукцыі і сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці ў арганізацыях прамысловасці ў студзені-лістападзе 2012 года ў фактычных цэнах склалі 59,7%. То бок, амаль 60% прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў не прадаецца.

Другі звыклы для Беларусі шлях — крэдыты. Менавіта на іх, па меркаванні многіх экспертаў, і трымаўся «беларускі эканамічны цуд». Але ў 2013 годзе нам крэдыты трэба аддаваць, а не браць. Агулам у 2013 годзе ў Беларусь на знешнія выплаты па крэдытах мусіць знайсці 3,1 мільярда долараў ЗША. Але прэзідэнт падчас сваёй прэс-канферэнцыі 15 студзеня агучыў іншую лічбу, на мільярд долараў большую — чатыры мільярды. Яму падказалі, што 3,1 мільярда — гэта сума толькі крэдытаў, а астатняе — грошы за іх абслугоўванне.

Новых крэдытаў нам не дасць ніхто. Беларусь апынулася ў ролі «нядобрасумленнага пазычальніка». Бо ўсе крэдыты маюць свае ўмовы, і галоўныя ўмовы (што крэдытаў Міжнароднага валютнага фонду, што крэдытаў Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭс) — гэта структурныя эканамічныя рэформы і прыватызацыя. Што тычыцца Беларусі, то мы адказваем крэдыторам словамі Папанава з фільма «Брыльянтавая рука»: «На гэта я пайцйсь не магу!». Сапраўды, як толькі мы пачнём рэфармаваць эканоміку, ляснуцца беларускі эканамічныя цуд, нашая стабільнасць і моцна захістаецца ўлада.

Так што зараз нам бы па тых, што ёсць, крэдытах разлічыцца.

Ёсць і іншы шлях захавання стабільнасці з павышэннем заробку — прыватызацыя. Але аддаць на заробак грошы з прыватызацыі — гэта банальна іх праесці. Да таго ж трэба ўлічваць, што прадпрыемства можна прадаць толькі адзін раз.

Дый не пойдуць грошы з прыватызацыі на заробкі, папросту таму, што ў нас зараз новы праект — мадэрнізацыя. І грошы з прыватызацыі павінны скіроўвацца менавіта на мадэрнізацыю прадпрыемстваў, а не на праяданне.

Акрамя таго, як адзначае эканаміст Яраслаў Раманчук, у Беларусі існуе аж 176 дзяржпраграм: аўцаводства, льнопрапрацоўка, мармуровае мяса, аграгарадкі і невядома што яшчэ. Гэта, канешне, не Сколкава і нанатэхналогіі, але і яны патрабуюць грошай. Таму перш за ўсё грошы ад прыватызацыі (калі яны, канешне, будуць, што таксама вялікае пытанне), скіроўюць і на гэтыя праекты.

І апошні варыянт — гэта тупа ўключыць машынку для друку грошай. Гэта ў гісторыі Беларусі было неаднаразова, але ніколі не прыводзіла да добрых вынікаў. Нават звычайныя людзі разумеюць, што калі такім чынам паспрабаваць «нарасціць» заробак, то заробак, можа, і дасягне лічбы ў 700 долараў. Але кілбаса тады будзе каштаваць 50 «баксаў».

Больш за тое, па словах Раманчука, гэты рэзерв таксама вычарпаны. «У 2012 годзе рублёвая маса ў Беларусі павялічылася на 69%. Гэта замнога. Таму, калі мы яшчэ паспрабуем уключыць станок для друку грошай, нас чакае вельмі жорсткая пасадка», — кажа Раманчук.

Тым больш, што ў «Асноўных накірунках грашова-крэдытнай палітыкі» на 2013 год барацьба з інфляцыяй абвешчана галоўнай стратэгічнай задачай. Згодна з планам, у 2013 годзе інфляцыя павінна скласці 12% за год, хоць у 2012-м гэты паказчык склаў 21,8%, а толькі за 8 дзён 2013 года ў Беларусі кошты выраслі на 1,5%.

Так што заявы пра сярэдні заробак у 700 долараў у 2013 годзе — гэта ўсяго толькі трызненне чыноўнікаў, якія альбо занадта рана пачалі святкаваць Новы год, альбо не скончылі гэтае святкаванне своечасова. І, па меркаванні фінансавага Аналітыка Сяргея Чалага, гэта разумеюць нават ва ўрадзе Беларусі. «Нам з 2011 года гаварылі, што заробак будзе расці не тымі тэмпамі, як раней. Нам казалі, што «выцягнем» нас улада толькі да 500 долараў, а далей — ужо самі, са сваіх прыбыткаў. І бюджэт на 2013 год, наколькі я ведаю, быў складзены выходзячы менавіта з гэтага — з разліку на ўласныя сілы прадпрыемстваў па пытанні заробкаў. Заробак у 700 долараў папросту не закладзены ў бюджэце», — кажа Чалы.

Такім чынам, да заяваў чыноўнікаў пра 700 долараў заробку трэба ставіцца як да застольнага пажадання.

# ФАКТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ



## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАБРУЙСК. ЖЫХАРЫ ЗАМЯРЗАЮЦЬ ВА ЎЛАСНЫХ КВАТЭРАХ

**У жыхароў дома №88 і інтэрната №17 па вуліцы Леніна ў Бабруйску праблемы з ацяпленнем пачаліся яшчэ ў сярэдзіне снежня.**

На вуліцы было пад 20 градусаў марозу, а ў пакоях градуснікі паказвалі ад +9 да +14. Жыхарам двух будынкаў, падключаных да міні-ЦЭЦ ад фабрыкі ФанДАК, даводзіцца хадзіць дома ў цёплых рэчах і спаць у іх жа.

Жыхарка дома №88 Людміла Баева расказвае, што на самай справе праблемы з ацяпленнем пачаліся некалькі гадоў таму, пасля пераводу гэтых двух будынкаў на ацяпленне ад міні-ЦЭЦ.

«Перапіску з гарвыканкамам, камунальнымі службамі вядзем даўно. У мяне ёсць дакумент, датаваны 2009 годам, дзе ў адказ на скаргі нам паабяцалі, што падключаць дом да сістэмы гарадскога ацяплення. Гэта было рашэнне гарвыканкама. Але ўжо праз нейкіх паўгода мы атрымалі іншую паперу ад чыноўнікаў, у ёй гаварылася, што ФанДАК устанавіў новую міні-ЦЭЦ, якой хопіць, каб абагрэць і фабрыку, і два жылыя будынкі. З тых часоў мерзнем яшчэ больш. Напрыклад, у нашым доме тэмпература адрозніваецца нават па паверхах. Я жыву на другім, і ў мяне +9 градусаў, у суседзяў знізу даходзіць да +14. Але яшчэ больш шкада нам маленькіх дзяцей, што жывуць у суседнім будынку, у інтэрнаце. Знаходзіцца пастаянна ў такім холадзе вельмі небяспечна», — адзначае Людміла Баева.

Перапіска бабруйчан з чыноўнікамі працягваецца і дасюль. У снежні сюды прыязджала камісія, рабілі замеры тэмпературы, гучалі абяцанні. З тых часоў прайшоў амаль месяц, а ў кватэрах бабруйчан цяплей не стала.

Жыхары інтэрната №17 кажуць, што даволі часта ў будынак завітваюць камунальнікі, робяць замеры — і на гэтым усё.

«Сказалі, трэба чакаць да сакавіка, а наперадзе самыя моцныя маразы. Паабяцалі, што калі будзе больш за 10 градусаў марозу, будзе пушчана «аварыйнае цяпло», але пакуль яго не пускалі, хаця тэмпература нават большай была. Куды ўжо звяртацца, я не ведаю, відавочна, што нашы праблемы чыноўнікаў не цікавяць. Калі б нашы скаргі былі пачутыя яшчэ некалькі год таму, да такога не дайшло б», — сумна ўздыхае Людміла Баева.

### АСТРАВЕЦ. МІКАЛАЙ УЛАСЕВІЧ ПАТРАБУЕ АД МЫТНІ КАМПЕНСАЦЫЮ

**Грамадскі актывіст з Астравеччыны Мікола Уласевіч выставіў сустрэчны іск у Ашмянскі раённы суд да Ашмянскай рэгіянальнай мытні па яе іску аб прызнанні забраных у актывіста рэчаў на мяжы нічыйнымі.**

Яшчэ 10 красавіка 2011 года пры пераездзе Уласевічам мяжы ў пункце пропуску Катлоўка, яго аўтамабіль быў затрыманы. Цягам трох гадзін мытнікі даглядалі машыну і асабістыя рэчы Уласевіча. У выніку ў яго былі забраныя дыктафон, тры дыскі DVD, 18 сцікераў «Фукусіма», а таксама два навучальныя дапаможнікі «Чарнобыльскія ўрокі» і альтэрнатыўны даклад па праблеме пабудовы АЭС. Усе пазнейшыя звароты Уласевіча ў Ашмянскую мытню з патрабаваннем вярнуць гэтыя асабістыя рэчы, засталіся без задавальнення.

Уласевіч даводзіць, што яго асабістыя рэчы затрымліваліся нібыта для правядзення крыміналістычнай экспертызы УК ГБ па Гродзенскай вобласці, мэту якой яму так і не патлумачылі. Экспертызу прызначылі толькі на 38-ы дзень, а афіцыйны адказ па сваім запыце Уласевіч так і не атрымаў. Замест гэтага яму даслалі адказ ад ідэалагічнага аддзелу аблвыканкаму зусім па іншым пытанні.

Мікалай Уласевіч зараз просіць суд спагнаць з адказчыка 800 тысяч рублёў (кошт дыктафона), а таксама кампенсаваць яму маральныя страты незаконным забіраннем асабістых рэчаў агульнай сумай 9 мільёнаў рублёў. Прычым гэтыя 9 мільёнаў ён просіць пералічыць на рахунак арганізацыі, якая займаецца пабудовай у мястэчку Варняны царквы.

### ГРОДНА. ПРАВААБАРОНЦЫ АБСКАРДЖВАЮЦЬ ШТРАФЫ

**Праваабаронцы Віктар Сазонаў, Раман Юргель і Уладзімір Хільмановіч, аштрафаваныя судом Ленінскага раёна Гродна на паўтара мільёны кожны, склалі скаргі ў абласны суд.**

У сваіх скаргах яны даводзяць усю абсурднасць абвінавачвання і пастановы суду. Усё абвінавачванне грунтавалася толькі на медыйным факце — фотаздымку на інтэрнэт-сайтах і дапушчэннях супрацоўнікаў міліцыі. У матэрыялах судовай адміністрацыйнай справы няма аніводнага доказу, што адбываўся пікет, аніводнага выразнага сведчання. Больш таго, паказанні супрацоўнікаў міліцыі ў справе супярэчлівыя. Аднак суддзя Віталь Ляцко не ўзяў пад увагу акалічнасці справы, ігнараваў довады падсудных і ўрэшце абвясціў юрыдычна неадэкватнае пакаранне.

Праваабаронцы перакананыя, што адміністрацыйны працэс, які адбыўся, абсалютна палітычны і ёсць пераследам за грамадскую дзейнасць. Віктар Сазонаў, Раман Юргель і Уладзімір Хільмановіч не маюць ілюзій, што Гродзенскі абласны суд зойме прынцыповую пазіцыю і перагледзіць пастанову, аднак хочуць дамагацца справядлівасці на ўсіх магчымых узроўнях і падкрэсліць юрыдычную абсурднасць гэтай беспрэцэдэнтнай адміністрацыйнай справы.

**Матэрыялы падрыхтаваны па інфармацыі сайта spring96.org**

---

КНІГА

## «СПРАВА БЯЛЯЦКАГА»

**Вольга ХВОІН**

**У серыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе» выйшла кніга журналіста Валерыя Каліноўскага «Справа Бяляцкага».**

Журналіст адсочваў судовы працэс над праваабаронцам, рыхтаваў матэрыялы для радыё з судовых пасяджэнняў, перапісваўся з Алесем Бяляцкім, калі той апынуўся ў турме.

Кніга не столькі пра крымінальную справу, паводле якой Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 гады турмы, колькі пра справу ягонага жыцця — абарону грамадзянскіх і культурных правоў чалавека.

«Бяляцкі — асноватворны персанаж гісторыі. Пасадзі яго на пустым месцы, тут неўзабаве з'явіцца музей, царква і праваабарончая арганізацыя. Культура, вера і правы. Зразумела, гэта будуць не столькі будынкі, колькі людзі, грамадзянская супольнасць, пачаткі грамадства, — піша ў пасляслоўі рэдактара Сяргей Дубавец. — Напэўна, беларускае грамадства сёння ўжо было б створанае, калі б у 1994 годзе да ўлады не прыйшоў першы і пакуль адзіны прэзідэнт з цалкам адваротнай праграмай ператварэння краіны ў «невялікі калгас». Прэзідэнт бачыць у Бяляцкім вобраз свайго канкурэнта і рэальную альтэрнатыву і пагрозу сваёй асабістай уладзе. І пакуль ён будзе прэзідэнтам, Бяляцкі будзе сядзець у турме, прынамсі ў ізаляцыі, а ў Беларусі не будзе грамадства і масавай салідарнасці, якая можа быць толькі ў грамадстве. Не будзе свабоды слова і аб'яднанняў, не будзе беларускае мовы, не будзе правоў чалавека... Напэўна, прэзідэнта б задаволіла эміграцыя Бяляцкага. Але той не згадзіцца... І таму ўсё, што можа прэзідэнт супраць Бяляцкага, — гэта фізічная ізаляцыя».

Таксама ў хуткім часе мусіць пабачыць свет кніга літаратуразнаўчых артыкулаў Алеся Бяляцкага. Выданне падрыхтавала да друку калега Алеся Паліна Сцепаненка — з ім яна працавала ў літаратурным музеі Максіма Багдановіча. У зборніку сабраныя літаратуразнаўчыя артыкулы, якія Бяляцкі пісаў, пачынаючы з 1986 года, літаратурная крытыка, артыкулы па гісторыі беларускай літаратуры і апошняе яго эсэ, напісанае ўжо ў турме, пра беларускую турэмную літаратуру.

---

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## БХД БУДЗЕ СТВАРАЦЬ «КААЛІЦЫЮ АДКАЗНЫХ»

**Сяргей ПУЛЬША**

**Аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» пакуль не бачыць сэнсу ў абмеркаванні кандыдатуры адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. Пра гэта на прэс-канферэнцыі 16 снежня заявіў сустаршыня аргкамітэту па стварэнні БХД Віталь Рымашэўскі.**

«Шмат зараз узнікае заяў і прапаноў у сувязі з будучымі прэзідэнцкімі выбарамі 2015 года. Для нас, я яшчэ раз паўтару, стратэгія БХД адна: давайце разам, супольна рабіць кампаніі па абароне беларусаў. Калі хоць адна супольная кампанія будзе праведзеная паспяхова, то можна казаць, што будзе еднасць. Еднасць магчымая толькі на глебе супольных дзеянняў і супольных каштоўнасцяў, супольнай праграме дзеянняў», — лічыць Рымашэўскі.

Паводле яго слоў, вельмі важна, каб дэмакратычныя сілы з 2013 года не пачалі «падман насельніцтва, кажучы, што ў Беларусі нібыта ёсць выбары».

«Няма сэнсу разважаць пра адзінага кандыдата, і не казаць пра тое, якія ўмовы мы ставім для правядзення выбараў. Першая ўмова: прызнаем мы права Аляксандра Лукашэнкі балатавацца на наступных выбарах? Тыя, хто прызнае — нам з імі не па дарозе, адназначна. З гэтага трэба пачынаць. А потым ужо казаць пра тое, якім чынам мы будзем пачынаць кампанію, якая ў нас ёсць праграма дзеянняў, што мы будзем гаварыць. Ці будуць гэта гвалтоўныя дзеянні, непрымальныя для нас, ці гэта будуць негвалтоўныя дзеянні. З тымі, хто збіраецца паднімаць тут узброенае паўстанне, сеяць варожасць сярод беларускага народа, БХД не па шляху», — заявіў Рымашэўскі.

Па ягоных словах, БХД пачынае двухбаковыя кансультацыі з палітычнымі партыямі і рухамі з мэтай выпрацоўкі сумесных дзеянняў і абмеркавання супольных планаў, і пошуку тых пунктаў, у чым БХД і іншыя арганізацыі могуць дзейнічаць разам. У першую чаргу, заявіў Рымашэўскі, перамовы БХД пачне «з тымі, хто можа трымаць сваё слова, з кім мы правілі кампанію байкоту 2012 года». Гэта, у першую чаргу, Аб'яднаная грамадзянская партыя, перамовы з якой адбудуцца ўжо ў пятніцу, 18 студзеня, незалежныя прафсаюзы і грамадзянская кампанія «Еўрапейская Беларусь». «Гэтыя палітычныя рухі блізкія нам па поглядах і па бачанню сітуацыі ў Беларусі», — кажа Рымашэўскі.

---

КАНФЕРЭНЦЫЯ

## БУНТ У ІМЯ СВАБОДЫ

**Інстытут грамадзянскай прасторы і публічнай палітыкі Універсітэта Лазарскага ў супрацоўніцтве з Беларускім офісам Фонду Конрада Адэнаўэра, Нацыянальным фондам у падтрымку дэмакратыі і Вышаградскім фондам абвяшчае прыём заявак на ўдзел у міжнароднай канферэнцыі «Бунт у імя свабоды: забыты ген беларусаў?»**

Канферэнцыя адбудзецца 8–10 сакавіка ў Варшаве. Мэта канферэнцыі — пошукі гістарычных інспірацый для грамадзянскай супольнасці ў сённяшняй Беларусі.

Заяўкі прымаюцца па наступных тэмах:

Антыаўтарытарныя тэндэнцыі ў гісторыі Беларусі (антыаўтакратычны характар Статута ВКЛ 1588 г.; пазіцыя жыхароў беларускіх гарадоў і мястэчак адносна цэнтральнай улады (часы Рэчы Паспалітай); імкненне за прыватную ўласнасць у савецкі перыяд).

Культура як сфера сцвярджэння грамадзянскага «Я» (магчымасць пераацэнкі распаўсюджанай устаноўкі «палітыка прадвызначае культуру» на карысць устаноўкі «культура трансфармуе палітыку»; культурнае дысідэнцтва ў БССР і ў лукашэнкаўскай Беларусі; паўпадпольныя тэатры, кінапрадукты, мастацкія выставы ў Беларусі — іх патэнцыял у фармаванні грамадзянскіх пазіцый).

Выхаваўчая і палітычная роля беларускіх жанчын у паўстанні грамадзянскай супольнасці (удзел дваранак беларуска-літоўскіх земляў у палітычным жыцці ў часы ВКЛ і Расійскай імперыі; роля жанчын у паўстанні 1863–1864 гадоў; «жаночыя бунты» пачатку 30-х гадоў; жаночыя рухі ў сённяшняй Беларусі).

Апроч таго, запрашаюцца грамадскія актывісты, культурныя і рэлігійныя дзеячы на аўтапрэзентацыю: «Абшары і метады грамадзянскага самасцвярджэння ў сённяшняй Беларусі» (распавесці пра ўласны досвед адстойвання сваёй аўтаноміі ў недэмакратычных умовах. Расповед пра гэты досвед варта спалучыць са спробай аўтааналізу і фармулявання практычных высноваў наконт таго, што, на вашу думку, ёсць ключавым у сітуацыі, калі неабходна адстойваць свае правы перад аўтарытарнай уладай).

Працоўныя мовы: беларуская і англійская.

Заяўкі і тэзісы (максімум 250 словаў) можна дасылаць на адрас: conference@civicspaceinstitute.org.pl

Апошні тэрмін падачы заявак: 10 лютага 2013 года.

Паведамленне аб выніках разгляду заявак: 17-га лютага 2013 года.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЗАСАДА ДЛЯ ГАМАНЦА

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Не паспеў новы год пачацца, а ўжо прынёс некалькі непрыемных падаруначкаў. Здаецца, усе рашэнні, якія маглі зашкодзіць выкананню інфляцыйнага прагнозу на 2012 год, улада перанесла на пачатак 2013-га. І паказчыкі не сапсавалі, і грошыкі здабылі.**



Як паведамляе Белстат, за некалькі дзён новага года цэны ўзраслі на 1,5%. Найбольшы прырост цэн з пачатку месяца адзначаны на тытунёвыя вырабы (13,6%), тварог нятлусты (1,7%), гарэлку (1,5%), муку пшанічную (1,3%), піва (1%), малако згушчанае з цукрам (0,9%), сыр плаўлены, шматкі аўсяныя, крупы манныя (0,8%), паслугі сувязі (20%), чыгуначнага транспарту рэгіянальных зносінаў эканом-класа (16,7%) і міжнародных зносін (7,5%), санаторна-аздараўленчыя паслугі (7,4%).

Гэта — толькі статыстыка за 8 дзён месяца. На гэтым, дарэчы, дзяржава спыняцца не збіраецца. Як і раней, яна збіраецца пераканаць беларусаў, што быць здаровым і працаваць — значна танней, чым хварэць. Істотна падаражэлі беларускія лекі. Гранічныя максімальныя адпускныя цэны павышаныя на лекавыя сродкі, якія выпрабляюцца рэспубліканскім вытворчым унітарным прадпрыемствам «Акадэмфарм», «Белмедпрэпараты» і сумесным таварыствам з абмежаванай адказнасцю «Лекфарм». Павышэнне склала ад 6% да 20%.

Больш за ўсё сярод прэпаратаў, якія падаражэлі, антыінфекцыйных сродкаў для сістэмнага выкарыстання — 26 найменняў, лекаў, прызначаных для лячэння сардэчна-сасудзістай сістэмы — 23 найменні. Гранічныя максімальныя адпускныя цэны павышаны на 11 найменняў проціпухлінных лекавых сродкаў і імунамадулятараў. Падняліся цэны і на іншыя прэпараты.

Ад 16 студзеня амаль традыцыйна на 5% падняліся кошты на бензін. Зараз дызельнае паліва каштуе 8 000 рублёў, дызельнае паліва «Арктыка» — 9 300, АІ–95 — 7 800, АІ–92-К-5 — 7 400. Прычым такое падвышэнне можа адбывацца штоквартальна. А калі яно можа адбывацца штоквартальна, то яно і будзе адбывацца штоквартальна.

Ёсць падаражанні, якія мы яшчэ адчуем. З 1 студзеня насельніцтву загадана аплачваць не 17% выдаткаў на жыллёва-камунальныя паслугі, а 21,8%. Калі канкрэтна, то ацяпленне стала даражэй на 5%, электрычнасць — на 9,5%.

І думаеце, на гэтым падаражанне спыніцца? Не, не спадзявайцеся. Міністр транспарту і камунікацый Анатоль Сівак у інтэрв'ю газеце «Рэспубліка» ўжо паплакаўся, што «21 прадпрыемства, якое падпарадкавана міністэрству, з'явілася ў мінулым годзе, як і ў 2011-м, планава стратным». На ягоную думку, вінаватыя ў гэтым нізкія цэны на чыгуначныя квіткі! Яны негатыўна адбіваюцца на стане пасажырскіх аўтапаркаў, якія на міжгародніх перавозках становяцца неканкурэнтаздольнымі і не могуць кампенсаваць выдаткі на стратныя ўнутрыгарадскія паездкі.

То бок, вінавата не занадта дарагое паліва, не раздоўбаныя ўшчэнт міжгароднія аўтобусы і маршруткі, якія жаруць гэтае паліва няведама колькі, а нізкія кошты на чыгуначныя квіткі! Гэта пры тым, што ў беларускія чыгункі перад святамі проста не ўбіцца і квіток не набыць — на сабе гэта адчуў. За два тыдні з усімі дадатковымі цягнікамі не было месцаў.

Можа, лепш бы міністр падумаў, як кошт на паліва знізіць — і яму была б карысць, і ўсяму насельніцтву.

Пакуль што наш урад дзейнічае па прынцыпу: «Калі вораг не здаецца — яго знішчаюць». Зразумела, з такімі коштамі ў крамах няма чаго туды хадзіць. Але вінаватыя, зноў жа, не кошты, вінаваты злыя канкурэнты.

Намеснік міністра гандлю Вячаслаў Драгун на тыдні заявіў, што беларускі гандаль павінен цалкам адмовіцца ад кіёскаў. На яго думку, кіёскі павінны «плаўна памерці», паколькі ў гэтых аб'ектах гандлю няма адпаведных умоваў ні для працы людзей, ні для захоўвання і рэалізацыі тавараў. «Гэта не зусім правільна, гандляваць так, калі ёсць адпаведныя гандлёвыя плошчы, дзе створаны ўсе неабходныя ўмовы», — адзначыў Вячаслаў Драгун.

Услед за сталіцай ад кіёскаў адмаўляюцца і рэгіёны — там, паводле яго слоў, вядзецца планамерная праца. «Індывідуальным прадпрымальнікам прапануецца перавод у добраўпарадкаваныя памяшканні. Гэтая праца вядзецца і па гарадах, і па асобных групах тавараў», — сказаў намеснік міністра.

> Калі чалавеку зручна набыць нешта мімаходзь у кіёску, то ён павінен ісці ў краму за тры кіламетры. Бо крамаў «крокавай даступнасці» на замену кіёскам так і не з'явілася

Правільна! Калі чалавеку зручна набыць нешта мімаходзь у кіёску, то ён павінен ісці ў краму за тры кіламетры. Бо крамаў «крокавай даступнасці», пра якія нам шмат казалі ў тым жа Мінгандлі, на замену кіёскам так і не з'явілася.

Можна спадару Драгуну параіць яшчэ больш і глыбей развіваць гэтую ініцыятыву. Калі па шляху на працу табе трэба пару батарэек у плэер — ты павінен ісці ў спецыялізаваную краму, якая гандлюе батарэйкамі. Калі стрыжань для асадкі — у спецстрыжневую краму. Калі шакаладку — у фірмовую краму «Спартака» ці «Камунаркі». Адзінае, што незразумела, дык гэта дзе набываць «Чупа-чупсы» — ідэалагічна варожую прадукцыю, якую дагэтуль не здолелі «імпартазамясціць», а вытворца фірмовай крамы «Чупа-чупсаў» не адкрывае, падлюка.

І яшчэ адзін званочак пра тое, што ўсё будзе толькі даражэць. У Беларусі з 1 студзеня 2013 года для дзяржаўных прадпрыемстваў і гаспадарчых таварыстваў з доляй дзяржавы ўніфікаваны памер прыбытку, які павінен пералічвацца ў бюджэт. Усе дзяржпрадпрыемствы абавязалі пералічваць у бюджэт 20% ад прыбытку. Такое рашэнне замацавана ўказам прэзідэнта №18 ад 11 студзеня 2013 года, тэкст якога апублікаваны на Нацыянальным прававым партале.

Указ уносіць змены і дапаўненні ў шэраг нарматыўных актаў. Паводле гэтых зменаў, у Беларусі дзяржаўныя ўнітарныя прадпрыемствы і дзяржаўныя вытворчыя аб'яднанні абавязаны пералічваць у бюджэт 20% ад прыбытку. Для гаспадарчых таварыстваў з доляй дзяржавы адлічэнні часткі прыбытку (20%) будуць вырабляцца прапарцыйна долі дзяржавы ў статутных фондах.

Выключэнне зроблена толькі для дзяржпрадпрыемстваў і гаспадарчых таварыстваў, якія спецыялізуюцца на вытворчасці сельгаспрадукцыі, рыбалоўстве і рыбаводстве. Яны абавязаны пералічваць у бюджэт 5% ад прыбытку.

А на каго ўскладуць гэтыя 20% ад прыбытку? Зноў жа, на пакупніка.

Карацей, у 2013 годзе трэба як ніколі берагчы свой гаманец, менш вандраваць і старацца не хварэць. Занадта дорага ўсё выйдзе.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### АЛЯКСАНДР КАЧАН

«Беларусьфільм» адмовіўся ад экранізацыі кнігі Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Начальнік аддзела рэалізацыі і рэкламы кінастудыі Міхаіл Кацюшэнка заявіў, што праблема ў падрыхтаваным сцэнары, які ёсць «пераказам» рамана. Ідэю фільма паводле гэтага рамана на «Беларусьфільме» адклалі «ў запаснікі».

Аўтар сцэнару Аляксандр Качан мяркуе, што прычыны тояцца ў іншым. «Сцэнар разглядаўся некалькі гадоў таму — на пасяджэнні Экспертнай рады пры Міністэрстве культуры і на «Беларусьфільме». Сцэнар быў прыняты і аплачаны. У тым ліку спачатку была чатырохсерыйная версія, а потым — пракатная поўнаметражная. Абодва сцэнары былі прынятыя, — патлумачыў сцэнарыст у інтэрв'ю «Еўрарадыё». — Калі мы абмяркоўвалі сцэнар з былым міністрам Латушкам, гэта непасрэдна ад яго быў такі заказ, выглядала інакш сацыяльная і ідэалагічная атмасфера ў краіне. Фільм задумваўся ў іншай сацыяльнай атмасферы, чым пануе ўжо некалькі гадоў у Беларусі. Таму я зусім не здзіўлены тым, што яго адклалі. І быў бы здзіўлены, калі б гэты фільм зараз пачаў рэалізоўвацца — зараз гэта за дзяржаўныя грошы наўрад ці будуць здымаць».

Паводле сцэнару, паўстанцы павінны былі змагацца за свабоду краіны пад бел-чырвона-белымі сцягамі, ключавым момантам у фільме з'яўляецца супрацьстаянне з Расійскай імперыяй.



### ДЗМІТРЫЙ ДЗІЧКОЎСКІ

Генеральны дырэктар СП ЗАТ «Мілавіца» Дзмітрый Дзічкоўскі мяркуе, што развіццю швейнага бізнэсу ў Беларусі перашкаджае неразвітасць прыватнай сферы ды недахоп швачак.

«У прыватніка ў параўнанні з дзяржавай заўсёды больш магчымасцяў знайсці эфектыўных менеджараў. Калі ўласнік не можа сфармаваць якасную кіраўнічую каманду, то ён сам бярэцца за рашэнне праблем кіравання, бо яму ёсць што губляць. У «Мілавіцы» кіраўнічая каманда ва ўсе часы пры рознай структуры ўласнасці была якаснай, эфектыўнай. Прадпрыемства можа быць паспяховым, і застаючыся дзяржаўным, калі ёсць магчымасць знайсці для яго эфектыўных кіраўнікоў. Аднак дзяржава не можа быць добрым уласнікам тысяч прадпрыемстваў, бо не ў стане падабраць эфектыўныя кіраўніцкія каманды для гэтых прадпрыемстваў. Калі б дзяржава пакінула за сабой толькі стратэгічна значныя прадпрыемства і прадала велізарную масу астатніх — якасць кіравання і ў рамках дзяржуласнасці, і ў рамках прыватнай вырасла б шматкроць», — заявіў у гутарцы з журналістам «Рэспублікі» кіраўнік «Мілавіцы».

Дзмітрый Дзічкоўскі таксама адзначыў, што ў краіне «катастрафічна не хапае швачак».

### АЛЯКСАНДР ГЛЕБ



Футбаліст Аляксандр Глеб заключыў з клубам «БАТЭ» новы кантракт, тэрмін дзеяння якога скончыцца 31 снежня 2013 года. Летам 2012 года Глеб вярнуўся ў Барысаў пасля дванаццацігадовай адсутнасці і паспрыяў выкананню «жоўта-сінімі» асноўных задач на сезон — заваёвы чарговага золата нацыянальнага першынства і траплення ў групавую стадыю Лігі чэмпіёнаў.

— Шмат думаў перад прыняццем такога рашэння. Шчыра кажучы, разлічваў працягнуць кар'еру ў бундэслізе. Варыянты былі, але дзесьці не задавальняла таблічнае становішча каманды, дзесьці трэнер хацеў мяне бачыць, а клубнае кіраўніцтва сумняваліся — у асноўным з-за вялікай колькасці раней перанесеных мной траўмаў. Таму, параіўшыся з роднымі, я вырашыў яшчэ годзік пагуляць у БАТЭ. У БАТЭ выдатны калектыў, дасведчаны трэнерскі штаб. Немалаважна, што клуб пастаянна развіваецца, расце. І быць часткай такога праекта мне вельмі прыемна. Спадзяюся, прынясу камандзе максімальную карысць, і ў 2013 годзе мы выступім яшчэ больш паспяхова, чым у мінулым, зробім чарговы крок наперад. Працягнуць супрацоўніцтва з БАТЭ — гэта цалкам узважанае рашэнне, і, упэўнены, яно будзе правільным, — цытуе Аляксандра Глеба афіцыйны сайт ФК «БАТЭ».

Раней старшыня праўлення клуба Анатоль Капскі заявіў, што ўмовы асабістага кантракту Глеба супастаўныя (калі не лепшыя) з тымі, якія ў яго былі ў «Крылах Саветаў». Паводле ацэнак асобных СМІ, у Самары Глеб атрымліваў каля 100 тысяч долараў на месяц.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДАНОС ЯК ФОРМА ПАЛІТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

Сяргей НІКАЛЮК

**Вера апазіцыйных палітыкаў у магчымасць данесці да выбарцаў свой варыянт праўды невынішчальная.**

Амерыканскі гісторык Рычард Пайпс лічыць, што адной з абавязковых умоў існавання феномену інтэлігенцыі з'яўляецца масавая вера адукаваных людзей у магчымасць стварэння «расы абсалютна рацыянальных чалавечых істотаў». Гэтыя перакананні ўзводзяць інтэлігентаў у шэрагі сацыяльных інжынераў і як бы апраўдваюць іх замахі на месца кіроўнай эліты.

Інтэлігенты-бальшавікі ў гэтым сэнсе не былі арыгіналамі. Уладу яны разглядалі як сродак для стварэння новага чалавека. У першыя гады свайго кіравання для фармавання новых людзей бальшавікам бракавала рэсурсаў, але пасля згортвання НЭПу праца закіпела.

Бальшавікі назаўсёды засталіся ў мінулым, і, на першы погляд, пошук палітыкаў, схільных да сацыяльнай інжынерыі ў Беларусі, можа здацца справай безнадзейнай. Асобныя заклікі «планамерна, спакойна працаваць на змену ладу мыслення людзей» з'яўляюцца хутчэй выключэннем, чым правілам. Але ніхто нам не забароніць зноў і зноў угледацца ў беларускую палітычную рэальнасць.

Чым тлумачаць шматлікія апазіцыйныя палітыкі свой удзел у выбарах? Не ў апошнюю чаргу імкненнем данесці да выбарцаў свой варыянт праўды, свае каштоўнасці, сваю пазіцыю. Такога кшталту даносы, аднак, маюць сэнс толькі ў выпадку гатоўнасці выбарцаў успрымаць апазіцыйныя варыянты праўды, каштоўнасцяў і пазіцый.

У такой гатоўнасці, прычым масавай, прыхільнікі даносаў, як правіла, не сумняваюцца. Праблемы на гэтым шляху калі і ўзнікаюць, то тэхнічныя, да якіх я адношу, апроч спрадвечнага дэфіцыту сродкаў на выраб агітацыйных матэрыялаў, таксама процідзеянне з боку ўлады, якая не абцяжарвае сябе выкананнем канстытуцыйных нормаў.

Такім чынам, цяперашняя сітуацыя адрозніваецца ад сітуацыі, апісанай Пайпсам, толькі тым, што новы чалавек, на думку сучасных прадстаўнікоў інтэлігенцыі, ужо існуе. І калі ён не стаў актыўным прыхільнікам каштоўнасцяў дэмакратыі і рынка, то толькі па тэхнічных прычынах, што пералічаныя вышэй.




## Канстытуцыя — жонка Канстанціна

Да XVII стагоддзя еўрапейская культура не заўважала свету дзяцінства. Дзіця для яе адрознівалася ад дарослага выключна колькасцю засвоеных ведаў. Стадыі ж развіцці дзіцячага інтэлекту былі адкрытыя швейцарскім псіхолагам Жанам Піажэ толькі ў другой палове мінулага стагоддзя.

Адна з галоўных высноў Піажэ — пераход на наступную стадыю інтэлектуальнага развіцця немагчымы без засваення папярэдняй стадыі. Узгадаем бравага салдата Швейка, якога сам аўтар несмяротнага рамана называў ідыётам. А ў чым, уласна кажучы, палягаў ідыятызм Швейка? У нядольнасці абстрактна думаць, таму ён і зводзіў любыя развагі да пераліку фактаў. У тэрміналогіі Піажэ, бравы салдат затрымаўся на стадыі канкрэтных аперацый, так і не здолеўшы падняцца да стадыі аперацый фармальных, якую дзіця асвойвае ва ўзросце 11–15 гадоў.

Скарыстаюся досведам Швейка і праілюструю абстрактныя развагі пэўным прыкладам. Гэта фрагмент размовы дасведчанага музычнага педагога (так мне яе рэкамендавалі) з маёй шасцігадовай унучкай:

— А цяпер, дзетачка, гучыць галоўная тэма музычнага твора.

— Цётачка, а ў вас ёсць коцік?

Пачуўшы такі абмен рэплікамі, я без асаблівых цяжкасцяў пераканаў дачку больш не марнаваць грошы на гэтага дасведчанага педагога.

Але вернемся на палітычнае поле. Паводле сучасных даследаванняў, 30% дарослых амерыканцаў так і не выходзяць на стадыю фармальных аперацый. Адпаведныя айчынныя даследаванні мне не вядомыя, але я не бачу падстаў лічыць, што колькасць паслядоўнікаў Швейка ў Беларусі ніжэйшая, чым у Амерыцы.

Гісторык Аляксандр Ахіезер у свой час адзначаў, што мова ўлады «ў Расіі на працягу ўсёй гісторыі краіны была больш абстрактнай, імкнулася да шырэйшых і глыбейшых абагульненняў, чым народная культура. Мова ўлады далёкая ад мовы архаічнага сялянства, якое складала амаль усё насельніцтва Расіі». Адсюль паўстае патрэба ў перакладзе мэтаў і праграмаў улады на мову, зразумелую народу.

З падобнай праблемай сутыкаецца і апазіцыя. Як тут ні згадаць крыкі мяцежных палкоў на Сенацкай плошчы: «За Канстанціна і яго жонку Канстытуцыю!»

Але няма правіл без выключэнняў. Палітычнае даўгалецце адзінага палітыка (АП) не ў апошнюю чаргу звязана з яго ўменнем размаўляць з народам на мове народа. У якасці ілюстрацыі працытую палітыка Канстанціна Затуліна: «Аляксандр Рыгоравіч — майстар спрэчкі, і я гэта выдатна разумею. Падчас той выбарчай кампаніі 1994 года, ён, напрыклад, выступаючы перад сялянамі, мог размаўляць у такім стылі: *«Вы стоите здесь, женщины, руки ваши потрескались от мозолей, вы доите корову, приходите домой, видите пьяного мужа, а надо его еще кормить. А я вчера зашел к Кебичу, а он сидит в своем кабинете и колбасу жрет!»*

Безумоўна, ёсць свая праўда і ў тых, хто бачыць у беларусах «гатовых еўрапейцаў» («і па адукацыі, і па ментальнасці, і па працоўнай маралі»). Вось толькі я не ўпэўнены, што гэту праўду можна данесці да тых, чые рукі *«потрескались от мозолей»*, бо камунікацыйная праблема не вырашаецца колькасцю ўлётак і асабістых кантактаў.

## Захад — гэта не падзея, а працэс

Гісторыя, паводле Маркса, ёсць працэс паслядоўнай змены грамадска-эканамічных фармацый. Кожнай фармацыі адпавядае свая класавая структура грамадства. Што да чалавека, дык ён вандруе па гісторыі, аднак прынцыпова не змяняецца.

Безумоўна, усе мы, незалежна ад узроўню IQ, належым да віду homo sapiens. З гэтага, аднак, не вынікае наша прыналежнасць да аднаго сацыяльнага тыпу. Калі ў сусветнай гісторыі і існуе скіраванасць, то абумоўлена яна ўсё большай індывідуалізацыяй чалавека, усё большай яго аўтаномнасцю.

«Па сутнасці, — лічыць культуролаг Андрэй Пеліпенка, — станаўленне чалавечай аўтаномнасці ідзе і зараз. Прынамсі мы можам назіраць ашаламляльныя адрозненні ў стадыях. Дастаткова звярнуць увагу на людзей, арганічна не здольных выбіраць асновы стратэгіі ўладкавання жыцця, мяркуючы, што гэта за іх зробіць хтосьці іншы: вялікі правадыр, манарх, культурны герой, рэлігійны аўтарытэт ці, урэшце, безасабовая традыцыя».

Працэс нарастання аўтаномнасці не з'яўляецца лінейным. У чымсьці ён аналагічны працэсу развіцця дзіцячага інтэлекту, г. зн. уяўляе шэраг паслядоўных стадый. І ўсе стадыі — абавязковыя. Падымацца па гістарычнай лесвіцы і пераскокваць праз прыступку не атрымалася яшчэ ні ў аднаго народу.

Кожнаму сацыяльнаму тыпу адпавядае свой тып цывілізацыі. Напрыклад, заходнееўрапейская цывілізацыя, у аснове якой ляжаць дэмакратыя і рынак, — гэта цывілізацыя асобы. З гэтага не вынікае, што насельніцтва заходніх краін спрэс складаецца з асобаў, гэта азначае, што сярод набору магчымых сацыяльных тыпаў асоба дамінуе.

У гэтым сэнсе Захад — гэта не падзея, а працэс. Таму яго характарыстыкі напачатку XX стагоддзя і напрыканцы — далёка не ідэнтычныя. І не варта дзівіцца, што радзіма прамысловай рэвалюцыі па сумяшчальніцтву стала і радзімай фашызму і нацызму. Урэшце, абедзве з'явы — не што іншае, як рэакцыя «абздзеленых» і «прыніжаных» еўрапейскіх народаў на сацыяльна-эканамічную дынаміку.

Пералічу найбольш значныя рысы асобы: аўтаномнасць, самадастатковасць і пастаянная арыентацыя на здзяйсненне выбару. Таму асоба ў мінімальнай ступені можа быць аб'ектам сацыяльнай маніпуляцыі і ідэалагічных гіпнозаў. Запатрабаванне ў свабодзе як вышэйшай каштоўнасці ўласцівае толькі асобе. Няма большай памылкі, чым прыпісваць гэта імкненне ўсяму чалавечаму роду. *Не-асоба* шукае не свабоду, а «гаспадара».

## Грамадства электронных гаджэтаў

Зараз самы час прыгледзецца да згуртаванай адзінай сям'і, якая летась сабрала *«небывалый урожай хлебов»* і *«замахнулись на строительство собственной атомной электростанции»*. Сам факт узнаўлення аўтарытарнага палітычнага рэжыму на чале з АП сведчыць пра тое, што ў структуры беларускага грамадства асоба так і не стала пераважным сацыяльным тыпам.

І не варта вінаваціць апазіцыю за тое, што яна не здолела падабраць патрэбныя словы, каб растлумачыць перавагі свабоды над няволяй. Асобы ў такіх тлумачэннях не маюць патрэбы, а *не-асобам* свабода супрацьпаказаная.

Але час не стаіць на месцы. Пры жаданні можна разгледзець масу зменаў на пабытовым узроўні. Каб здзейсніць гэта, звернемся па дапамогу да дырэктара «Левада-цэнтра» Льва Гудкова: «На працягу апошніх 20 гадоў мы назіралі, як хутка змяняецца структура ўзаемадзеяння ў тых сферах, дзе слабее ці знікае ранейшая дзяржаўная манаполія, як хутка ўзнікаюць новыя сацыяльныя арганізацыі і формы ўзаемадзеяння (бізнэс, масавыя камунікацыі, масавая культура, узоры спажывання і ладу жыцця). Аднак нязменным застаецца апорны інстытут таталітарнага грамадства — структура бескантрольнай улады».

Перад Новым годам я наведаў сяброў у Гомелі. Кожны пяты (калі не чацвёрты) у плацкартным вагоне бесперапынна тыкаў пальцамі ў якую-небудзь электронную прыладу. Але з якой мэтай? Для атрымання ведаў? Пытанне рытарычнае.

Самі па сабе электронныя прыбамбасы не фармуюць асобу. Тут прамая паралель з тэлебачаннем, якое разумных робіць разумнейшымі, а дурных — дурнейшымі. Працытую «Нью-Ёрк таймс» за 19 сакавіка 1939 года: «Галоўная праблема тэлебачання ў тым, што людзі павінны сядзець як прывязаныя каля экрана: у сярэдняй жа амерыканскай сям'і на гэта папросту няма часу». Якая наіўнасць!

У Беларусі тэлевізар штодня глядзіць 61% насельніцтва, яшчэ 18% аддае гэтаму занятку 4–6 дзён на тыдзень, што не перашкодзіла 53% рэспандэнтаў нічога не чуць пра ліквідацыю наглядальных саветаў на «Камунарцы» і «Спартаку» (НІСЭПД).

У *не-асобаў* свая інфармацыйная пясочніца. І той, хто ў ёй гуляецца, ведае ўсё пра адносіны Галкіна з Пугачовай. Спрабаваць данесці да спажыўцоў падобнай інфармацыі свой варыянт палітычнай праўды — марны занятак.

(працяг будзе)

АПЫТАННЕ

# ВА ЎСІМ ВІНАВАТЫ, І ЎЖО НЕ ЛЮБІМЫ

Вольга ХВОІН

**Апытанне грамадскай думкі напрыканцы 2012 года паказала, што рэйтынг кіраўніка дзяржавы застыў на адным узроўні, нягледзячы на паказальныя пакаранні чыноўнікаў, заробак у «500 у.а.» і запэўніванне, што Беларусь выбралася з эканамічнага крызісу. Рэйтынгі прадстаўнікоў апазіцыйных сілаў нічога сенсацыйнага не дэманструюць. Выглядае на тое, што ад старога беларусы стаміліся, а з жаданнем новага яшчэ не вызначыліся.**

Аналітыкі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) адзначаюць, што эканамічныя пературбацыі дагэтуль не даюць веры вышэйшаму кіраўніцтву Беларусі ў вачах насельніцтва. Галоўным вінаватым у цяперашнім крызісе беларусы называюць Аляксандра Лукашэнку (41%), на другім месцы — урад (39,1%), апазіцыю вінавацяць 11,5%, Еўропу — 10,9%, Расію — 7,5%.

Скептычнае стаўленне да свайго эканамічнага стану пачынае распаўсюджвацца і на эканамічную палітыку ўлады. У якасці прыкладу прыводзіцца рэакцыя на скандал вакол кандытарскіх фабрык «Камунарка» і «Спартак». Пра рашэнне Лукашэнкі ліквідаваць назіральныя саветы названых кандытарскіх прадпрыемстваў і перадаць абодва прадпрыемствы пад кантроль дзяржавы чула амаль палова (46,7%) апытаных, і большасць з іх (36,1%) не ўхваляе гэтае рашэнне, бо яно супярэчыць беларускаму заканадаўству.

Сумневу ўсё больш падвяргаюцца не толькі асобныя рашэнні, але і сама ідэалогія эканамічнай палітыкі ўладаў. Так, з нядаўняй заявай Лукашэнкі аб тым, што «рынкавую ідэалогію нам падкінулі для таго, каб знішчыць тую эканоміку, якая ў нас была», не пагадзіліся 56,2% рэспандэнтаў (пагадзіліся толькі 24%), з заявай аб тым, што «асновай палітыкі — і маёй перш за ўсё — з'яўляецца сумленнасць і справядлівасць. Гэта аснова ўсяго, у тым ліку і эканомікі, як бы ні дзіўным гэта здавалася», не пагадзіліся 52,6% (пагадзіліся 34,5%), а з заявай, што «нельга… ганіць тое, што было ў 1917 годзе, і наогул пускаць пад нож тыя добрыя ідэі, з якімі Ленін і яго каманда ішлі на гэтую рэвалюцыю», не пагадзіліся 48,9% (пагадзіліся 35,1%).

Можна сказаць, што цяпер назіраецца працэс стомленасці ад канцэнтрацыі ўлады ў руках аднаго чалавека. Гэта лагічна пачынае выклікаць раздражненне і пратэст. Між іншым, апытанні на вуліцах Мінска мінакоў на тэму таго, што б яны хацелі спытаць у Лукашэнкі, прадэманстравалі акурат негатыўнае стаўленне да кіраўніка дзяржавы, і, як бы тое ні дзіўна выглядала, але многія не баяліся агучваць кароннае кухоннае пытанне: «Колькі ж можна?!».

Асабісты рэйтынг кіраўніка Беларусі застыў: у снежні яму давяралі 39,1% рэспандэнтаў, а не давяралі 49,1% (у верасні было 38,5% vs. 51,9%), галасаваць за яго на новых выбарах прэзідэнта гатовыя 31,5% (у верасні 31,6%).

На пытанне: «Адны людзі думаюць, што пасля сыходу Лукашэнкі з пасады прэзідэнта жыццё ў Беларусі палепшыцца, а іншыя — наадварот, што пагоршыцца. А што думаеце Вы?» 24,5% адказалі, што жыццё палепшыцца, а 25,9% — што пагоршыцца (у снежні 2011 года было 31,7% vs. 21,5%). Відавочна, што перакладанне адказнасці на «нядбайных чыноўнікаў», якое прэзідэнт памайстэрску выкарыстоўвае шмат гадоў, ужо не дае ранейшага эфекту, — падкрэсліваюць аналітыкі НІСЭПД.

Але папярэджваюць, што рабіць высновы пра рэвалюцыйныя настроі беларусаў зарана — большасць беларусаў да адкрытага выказвання сваёй незадаволенасці па-ранейшаму не гатовая. Прычым, зусім не з-за «татальнага страху» і «ўсеўладдзя спецслужбаў». На першы план выходзіць недавер да чыноўніцкага апарату, які абвінавачваюць у непадкантрольнасці і абыякавасці да праблем людзей. Далейшыя вынікі апытання дэманструюць загадкавую душу нашых суайчыннікаў. Бо надзеі на выхад Беларусі з крызісу больш за ўсё рэспандэнтаў (34,1%) звязваюць з Лукашэнкам, затым з прадпрымальнікамі — 28,8%, з Расіяй — 24%, з Захадам — 20,7%, з апазіцыяй — 8,6%.

Як бачым, Расія і Захад амаль зраўняліся ў рэйтынгу магчымых партнёраў, што прынясуць дабрабыт на беларускія землі. А апазіцыя, на жаль, па-ранейшаму не выклікае даверу — ці то праграм талковых не прапануе, ці то прапануе не там і не тым, а таму застаецца па-за зонай дасягальнасці сэрцаў і розумаў аўдыторыі.

Сябе ў апазіцыі да цяперашняй улады лічаць 21,3% рэспандэнтаў, давяраюць апазіцыйным партыям толькі 20% (не давяраюць 55,8% (!)), а рэйтынгі лідараў апазіцыі па-ранейшаму вагаюцца ад 4,8% у Андрэя Саннікава і 4,6% у Уладзіміра Някляева да 1,1% у Мікалая Статкевіча і 0,9% у Анатоля Лябедзькі.

У знешнепалітычных арыентацыях беларусаў назіраецца зрух у бок сімпатый да Еўрапейскага саюза. Пры неабходнасці выбару паміж аб'яднаннем з Расіяй і ўступленнем у Еўрапейскі саюз за першы варыянт выказваюцца 37,7%, а за другі — 43,4% апытаных. Аднак у больш глыбокай рэтраспектыве «дрэйф» грамадскай думкі ад Расіі да Еўрапейскага саюза становіцца ўсё больш прыкметным. Так, калі ў снежні 2011 года за ўступленне ў ЕС на гіпатэтычным рэферэндуме прагаласавалі б 35,9%, а супраць — 36,9%, за аб'яднанне з РФ — 29%, а супраць — 42,9%, то ў снежні гэтыя суадносіны сталі 38,9% vs. 37,6% і 28,7% vs. 47,5% адпаведна.

Аналітыкі НІСЭПД мяркуюць, што на стаўленне да Расіі магла паўплываць акурат падтрымка Беларусі, дзякуючы якой з канца мінулага года і пачалася эканамічная стабілізацыя. А гэта, у сваю чаргу, выклікала пытанні ў «масавага беларуса». Разам з тым у СМІ можна адсачыць даволі агрэсіўную рыторыку, калі размова тычыцца беларуска-расійскага супрацоўніцтва: пачынаючы ад канфліктаў вакол нафтапрадуктаў і да настойлівых «рэкамендацый» аб увядзенні на тэрыторыі Беларусі расійскага рубля. Для беларусаў, якія ўсё ж прызвычаіліся да таго, што наша дзяржава ўнітарная і самастойная (знешнюю палітыку правядзення гэтай самастойнасці пакінем за дужкамі) падобныя пасланні патыхаюць непрыхаванай агрэсіяй і пагрозай страты суверэнітэту, што нават на простым эмацыйным узроўні не выклікае сімпатый.

| ШТО, НА ВАШ ПОГЛЯД, МУСІЦЬ РАБІЦЬ АПАЗІЦЫЯ (МАГЧЫМА БОЛЬШ ЗА АДЗІН ВАРЫЯНТ АДКАЗУ)? | |
|---|---|
| Прапанаваць дыялог ураду | 35 % |
| Дабівацца адстаўкі прэзідэнта | 33,4 % |
| Дабівацца адмены эканамічных санкцый супраць Беларусі | 19,9 % |
| Дабівацца адстаўкі ўраду | 17,9% |
| Дабівацца адстаўкі парламенту | 13 % |
| Байкатаваць усе ініцыятывы ўраду | 5,6 % |
| Дабівацца ўвядзення эканамічных санкцый супраць Беларусі | 4,7 % |
| Арганізаваць узброенае паўстанне ці рэвалюцыю | 3,1 % |
| Не змаглі адказаць | 16,7 % |

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# НУЛЬ БЕЗ ПАЛАЧКІ

Сяргей ПУЛЬША

**Любая прэс-канферэнцыя любога палітыка — гэта, найперш, піяр. Так у ЗША, у Расіі, ва ўсім свеце. І Беларусь з гэтага шэрагу — не выключэнне. Прэс-канферэнцыя, якую наладзіў Аляксандр Лукашэнка 15 студзеня для беларускіх журналістаў, таксама была, хутчэй, піяр-ходам. Бачна, прэзідэнту даклалі, што ягоны рэйтынг застыў на ўзроўні 30% і вышэй рухацца не збіраецца. Таму ён паспрабаваў выправіць гэтую сітуацыю. Але ці дасягнуў ён сваёй мэты?**



Фота www.belta.by

На вялікі жаль, спраўдзіліся прагнозы некаторых СМІ пра тое, што Аляксандр Лукашэнка не здолее сказаць беларускім журналістам нічога новага. Так і адбылося — нічога новага падчас пяцігадзінных адказаў на пытанні не прагучала. Аляксандр Лукашэнка выглядаў у звыклай для яго манеры «ўпэўненага аўтарытарыста». Эканоміка выслізнула з крытычнага абвалу 2011 года, палітвязні будуць сядзець, пакуль не пакаюцца, а сам Лукашэнка ўладу не аддасць да таго часу, пакуль, па-першае, у Беларусі не з'явіцца варты канкурэнт, а па-другое, пакуль не будуць дадзеныя гарантыі, што «ўсё, што нажытае непасільнай працай» прэзідэнта, будзе ў Беларусі захавана і працягнута.

Але былі і нейкія новыя канцэпты ў падыходзе да прэс-канферэнцыі. Аляксандр Лукашэнка, здаецца, упершыню адчуў моц інтэрнэту, які ён інакш як «сметніцай» раней не называў. Адказаць на некалькі пытанняў, зарання падабраных прэс-службай з інтэрнэту, — гэта быў моцны крок, які паказаў, што Лукашэнка да пытанняў і адказаў сур'ёзна рыхтаваўся.

У прынцыпе, любая прэс-служба, асабліва прэзідэнцкага маштабу, пры падрыхтоўцы прэс-канферэнцыі думае, якія пытанні могуць задаць тыя ці іншыя журналісты тых ці іншых СМІ. І яны папярэдне «праганяюць» свайго лідара праз гэтыя пытанні. Можа, менавіта таму Лукашэнка вельмі ўпэўнена адказваў на «нязручныя» пытанні з нагоды свайго гадзінніка, «Майбаха» ды прэзідэнцкага самалёта, з нагоды палітзняволеных ды даходаў чыноўнікаў, а «сарваўся» на даволі бяскрыўдным пытанні пра адносіны Беларусі і Еўрасаюза. «Ён сапраўды спрабаваў жартаваць, адказваючы на вострыя пытанні, і пачаў прэс-канферэнцыю ў даволі міралюбівым стылі. Але гэты стыль у яго вытрымаць не атрымалася», — зазначае аўтар палітычнай біяграфіі Лукашэнкі Валер Карбалевіч.

Менавіта гэта звяло на нуль усю прэс-канферэнцыю Лукашэнкі. З аднаго боку, ён не паказаў свайму электарату звычайнае шоў, ён імкнуўся трымацца ў ролі «мудрага цара». Зараз электарат не зможа сказаць нешта кшталту: «Як ён іх, паразітаў, разнёс!». З іншага боку, успышка раздражнёнасці паказала ўсім, што ён застаўся такім жа, якім і быў: ніякім не «мудрым царом», а звычайным Аляксандрам Лукашэнкам.

І яшчэ адну цікавую дэталь адзначылі некаторыя журналісты. Па меркаванні палітычнага аглядальніка Паўлюка Быкоўскага, Лукашэнка шмат казаў пра нашы дасягненні ЗАРАЗ, але, у адрозненне ад іншых прэс-канферэнцый, ён амаль нічога не казаў пра тое, што БУДЗЕ ДАЛЕЙ. «Раней Лукашэнка быў поўны пазітыўных планаў, дарыў людзям надзею, казаў пра ўпэўнены рост ВУП і заробак у 500 долараў, дасягнуць якога нам перашкаджалі толькі ворагі з Захаду альбо Усходу. Зараз жа ніякіх пазітыўных планаў і надзей на прэс-канферэнцыі агучана не было. Новай пазітыўнай праграмы ў Лукашэнкі няма», — адзначае Быкоўскі.

Таму наўрад ці, пры ўсім імкненні іміджмейкераў выратаваць рэйтынг Лукашэнкі, гэта прэс-канферэнцыя дасягнула сваёй мэты. Яшчэ раней рэкламіст Юлія Ляшкевіч казала, што прэс-канферэнцыі павінны быць дарэчнымі. Яны патрэбныя, калі ёсць нейкі выклік, калі трэба тэрміновая рэакцыя на падзеі, калі людзі разгубленыя, і грамадзяне не ведаюць, як рэагаваць на той ці іншы выклік, на тую ці іншую сітуацыю, калі ім трэба растлумачыць, што і як рабіць. А сёння такіх выклікаў няма.

Адпаведнае і асвятленне прэс-канферэнцыі ў СМІ: журналісты засяродзілі ўвагу альбо на самых смешных цытатах, наконт «прафесійнага футбаліста Лукашэнкі», альбо на самых неадназначных, наконт экзатычнасці расійскага пасла ў Беларусі. Больш — нічога.

Рэйтынг Аляксандру Лукашэнку гэта прэс-канферэнцыя не падыме. Праз тыдзень ад яе застанецца пара-тройка цытат, а праз месяц узгадаць дакладна, пра што казаў Лукашэнка на прэс-канферэнцыі, не здолеюць нават тыя, хто задаваў Лукашэнку пытанні.

## 25 студзеня, пятніца

---

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.05** Дакументальны серыял «Пад сонцам» (ЗША). 4-я серыя.
**12.10** Гістарычная драма «Вершнік з імем Смерць» (Расія).
**14.05** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**16.20** Актуальнае інтэрв'ю.
**16.30** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.30** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**18.25, 23.50** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**22.50** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Фантастычная камедыя «Санта на продаж» (Швецыя-Фінляндыя-Францыя).
**02.05** Дакументальны серыял «Пад сонцам» (ЗША). 4-я серыя.

---

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Вялікая прэм'ера. «Высоцкі. Дзякуй, што жывы».
**23.35** «Высоцкі. Апошні год».
**00.30** Вострасюжэтны фільм «Гульня ў хованкі».
**02.25** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Каханне 911».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Слухаючы цішыню». Расія.
**15.40** «Хораша жыць».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Няўдачнікі». Францы.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Адмысловы праект».
**00.40** Фільм «Брудныя хароствы». Вялікабрытанія, 2002 г.

---

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Дакументальна-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).
**11.15** Камедыя «Дыяменты для Джульеты» (Расія).
**14.50** «Уладзімір Высоцкі. Беларускі след «. Дакументальны фільм (Беларусь).
**15.50** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга». 5-я серыя, закл.
**17.15** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.10** Парушаючы запаведзі….
**19.55** Арэна.
**20.25** Фактар сілы.
**20.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. 1-ы паўфінал. Прамая трансляцыя. У перапынку: **21.35** КЕНО.
**22.30** Тэлебарометр.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.25** Гандбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. 2-і паўфінал. Прамая трансляцыя.
**01.00** Дакументальна-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).

---

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весці.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Аб'ект 11».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Катоўскі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчат». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** «Варажба пры свечках».
**22.10** «Крывое люстэрка». Тэатр Яўгенія Петрасяна.
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Вялікае каханне» (2006 г.).

---

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.05** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.05** «Юля Абдулава.Мая споведзь».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Масквічы». Тэлевізійная камедыя.
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Серыял «Мужы».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыў «Пятровіч».
**00.25** Вострасюжэтны серыял «Дэманы».
**00.55** Вострасюжэтны серыял «Апергрупа».

---

**00.00** Покер.
**01.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі.
**02.00** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**09.35** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі.
**10.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі.
**13.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі.
**15.35** Зімовыя віды спорту.
**15.50** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. Паўднёвая Афрыка - Групавы этап.
**16.45** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. Паўднёвая Афрыка - Групавы этап.
**19.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Вікерсунд - Кваліфікацыйны раўнд.
**19.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**20.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. Паўднёвая Афрыка - Групавы этап.
**22.00** Фігурнае катанне: Чэмпіянат Еўропы. Заграб - Адвольны танец.
**23.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі.

---

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Euromaxx.
**10.05** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 4 серыя.
**10.55** Без межаў.
**11.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.35** Два на два (тэледыскусія).
**12.00** Студыя «Белсат».
**13.35** Рэпартэр.
**14.00** Аб'ектыў.
**14.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.40** Euromaxx.
**15.10** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 4 серыя.
**16.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**16.25** Два на два (тэледыскусія).
**16.50** «Час гонару», серыял: 6 серыя.
**17.35** Рэпартэр.
**18.05** На колах.
**18.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.45** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў, 1996–2000 гг., Польшча: «Няпісаныя законы», 1998 г.
**22.40** Эксперт.
**23.10** Студыя «Белсат».
**00.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.10** Аб'ектыў.
**01.35** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 26 студзеня, субота

---

**07.00** Камедыя «Афоня» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**10.00** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**10.55** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.30** Зямельнае пытанне.
**12.10** Камедыя «Беражыся аўтамабіля».
**14.05** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.35** «Песня пра долю». Рок-опера В.Мулявіна.
**16.45** «Помнім, любім, спяваем...» Канцэрт памяці В. Мулявіна.
**17.35** Каробка перадач.
**18.05** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Камедыя «Кідалы ў гульні « (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Трылер «Плецены чалавек» (ЗША-Германія).
**23.25** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

---

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**11.50** «Жывы Высоцкі».
**12.45** Камедыя «Кухарка».
**14.05** «Высоцкі. Апошні год».
**15.00** «Высоцкі. Дзякуй, што жывы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Высоцкі. Дзякуй, што жывы». Працяг.
**17.55** Прэм'ера. «Уладзімір Высоцкі. «Я не веру лёсу…».
**18.55** «Свая каляіна».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.35** Фільм «Служылі два таварышы».
**00.20** Прыгодніцкі фільм «Ліга выбітных джэнтльменаў».

---

**06.05** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.45** «Анфас».
**08.00** Фільм «Няўдачнікі». Францыя.
**09.55** «Жыць будзеце».
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** «Чорны замак Альшанскі». «Беларусьфільм», 1983г. 1-я серыя.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Уявіце сабе».
**18.00** «Ярык». Расія, 2007г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Пасля прачытання спаліць». ЗША-Вялікабрытанія-Францыя, 2008г.
**22.00** «Дзіўная справа».
**22.55** Фільм «Каханне і цыгарэты». ЗША, 2005г.
**00.45** «Глядзець усім!».

---

**08.00** Дабравест.
**08.25** Камедыйны серыял «Светлафор».
**09.30** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга» (СССР). 5-я серыя, заключная.
**11.20** Тэлебарометр.
**11.25** Пазакласная гадзіна.
**11.40** Альбарутэнія.
**12.20** Наперад у мінулае.
**12.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.30** Беларуская кухня.
**14.05** Авантурная камедыя «Мільён у шлюбным кошыку» (СССР).
**16.05** Парушаючы запаведзі….
**16.55** Баскетбол. Ліга ВТБ. Прамая трансляцыя.
**18.45** Ваша лато.
**19.30** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.40** Хакей. КХЛ. У перапынку: 21.00 КЕНО.
**21.45** Тэлебарометр.
**21.50** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке-шоў.
**22.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Матч за 3-е месца.
**00.35** Баявік «Падвойная ракіроўка-3» (Ганконг).

---

**07.00** «Яшчэ кахаю, яшчэ спадзяюся.».
**08.20** «Ха». Маленькія камедыі.
**08.30** «Крывое люстэрка». Тэатр Яўгенія Петрасяна.
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весці.
**11.10** «Суботнік».
**11.50** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.15** «Два капітана».
**14.00** Весці.
**14.15** «Усміхайцеся, Вас здымаюць! Касмічныя выведнікі».
**15.10** «Лясное возера» (2011 г.).
**16.55** «Сваты».
**18.05** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весці ў суботу.
**20.40** «Андрэйка» (2012 г.).
**00.00** «Улетку я аддаю перавагу вяселлю» (2009 г.).

---

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** Агляд.
**08.50** «Гатуем з Аляксеем Зіміным».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Версія».
**15.10** «Жаночы погляд».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Следства вялі.».
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.00** Выратавальнікі.
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** Сёння.
**19.30** Серыял «Адысея шпіка Гурава».
**22.45** «Антыснайпер. Новы ўзровень».
**00.25** «Двое ў чужой хаце».

---

**00.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Вікерсунд - Кваліфікацыйны раўнд.
**01.45** Аўта і Матаспорт.
**02.00** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**09.35** Зімовыя віды спорту.
**09.50** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі.
**10.15** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**10.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі – Фінал. Жанчыны.
**12.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск. Мужчыны.
**13.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Слаламгігант. Жанчыны.
**15.15** Лыжнае двааборствы: Кубак свету. Клігенталь - HS 140.
**16.15** Лыжнае двааборства: Кубак свету. Клігенталь.
**17.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Вікерсунд.
**18.45** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**19.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. Паўднёвая Афрыка - Групавы этап.
**19.45** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. Паўднёвая Афрыка - Групавы этап.
**22.00** Фігурнае катанне: Чэмпіянат Еўропы. Заграб - Адвольная праграма. Жанчыны.
**23.00** Фігурнае катанне: Чэмпіянат Еўропы. Заграб - Адвольная праграма. Мужчыны.

---

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.55** Форум (ток-шоу).
**11.40** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**12.05** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 4 серыя.
**12.55** МакраФон: «Права быць свабодным» (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гурта «Індыга».
**13.20** «Час гонару», серыял: 4 серыя.
**14.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Сакрэт берлінскага бункера».
**14.25** Без межаў.
**14.40** Два на два (тэледыскусія).
**16.05** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў, 1996–2000 гг., Польшча: «Няпісаныя законы», 1998 г.
**17.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**17.15** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.25** Назад у будучыню.
**17.35** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 4 серыя.
**18.00** Еўропа сёння.
**18.30** Назад у будучыню.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.15** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча 1 серыя.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 15.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Прадвесне», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**21.45** Суботні сеанс: «Бандыт», драма, 1997 г., Польшча–Вялікабрытанія–Францыя–Германія.
**23.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.45** Аб'ектыў.
**00.00** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 27 студзеня, нядзеля

### БЕЛАРУСЬ 1

**07.25** Камедыя «Беражыся аўтамабіля».
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».
**10.50** Медычныя таямніцы.
**11.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Камедыя «Афоня» (СССР.
**14.05** «Трыўмф. Героям спорту «. Дзённік.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Заўтра - гэта мы!
**16.00** Культурныя людзі +.
**16.40** Ваенны дэтэктыў «У жніўні 44-га…» (Беларусь-Расія).
**19.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**20.00** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.25** Трылер «Добры злодзей» (Францыя-Вялікабрытанія).
**00.20** Хакей для ўсіх.
**01.00** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** Пакуль усе дома.
**10.30** Фільм «Вясна».
**12.25** Фільм «Зімовы вечар у Гаграх».
**14.10** Прэм’ера. «Ежа як лекі».
**15.10** «Абракадабра».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Абракадабра». Працяг.
**16.50** Фільм «ПіраМММіда.
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм’ера. «Вялікая розніца ТБ».
**22.50** «Калядныя сустрэчы» Алы Пугачовай.

### СТВ

**06.30** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.15** Фільм «Пасля прачытання спаліць». ЗША-Вялікабрытанія-Францыя, 2008г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Жыць будзеце».
**10.50** «Вялікі сняданак».
**11.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.25** «Добры дзень, доктар».
**13.00** «Чорны замак Альшанскі». «Беларусьфільм», 1983г. 2-я серыя.
**14.20** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Апошняя справа Ламаркі».
**22.45** «Цуды запаветныя».
**23.40** Фільм «Залатая моладзь». Вялікабрытанія, 2003г.

### БЕЛАРУСЬ 2

**08.05** Таямніца душы.
**08.30** Камедыйны серыял «Светлафор».
**09.35** Фільм «Мільён у шлюбным кошыку».
**11.30** Тэлебарометр.
**11.35** Пазакласная гадзіна.
**11.50** Альбарутэнія.
**12.25** Школа рамонту.
**13.30** Пра мастацтва.
**14.00** Вышэй за дах.
**14.45** Эксцэнтрычная камедыя «Дванаццаць крэслаў» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**17.40** Фактар сілы.
**18.15** Суперлато.
**19.05** Гандбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор’я.
**21.40** Спорт-кадр.
**22.25** Фільм «Кантракт» (ЗША-Германія).
**00.10** Камедыйны серыял «Светлафор».

### РОССИЯ

**07.00** «Андрэйка» (2012 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весці.
**11.15** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** «Нядзельны тата».
**14.00** Весці.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Чорныя дзіры. Белыя плямы».
**15.15** «Мая выдатная лэдзі. Таццяна Шмыга».
**16.10** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**17.05** «Сваты».
**18.15** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весці тыдні.
**21.25** «Памылкі кахання» (2012 г.).
**23.10** «Нядзельны вечар з Уладзімірам Салаўёвым».

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.30** «Ядзім дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паядзім!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Версія».
**15.05** «Таямнічая Расія: рэпцілоіды сярод нас?».
**16.00** Сёння.
**16.15** Вострасюжэтны серыял «Грамадзянка начальніца. Працяг».
**18.00** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.45** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.55** «Ты не паверыш!».
**22.50** Баявік «Антыснайпер. Стрэл з мінулага».
**00.30** «Рэакцыя Васэрмана».
**01.00** «Прамень Света».
**01.30** «Школа зласлоўя».

### EUROSPORT

**00.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі - Фінал Жанчыны.
**01.45** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**02.00** Зімовыя віды спорту.
**02.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Вікерсунд.
**09.35** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі.
**10.15** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**10.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі – Фінал. Мужчыны.
**13.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Слалам. Жанчыны.
**14.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Слалам. Мужчыны.
**15.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Вікерсунд.
**17.15** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. Клігенталь - HS 140.
**17.45** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. Клігенталь.
**18.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**18.45** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. Паўднёвая Афрыка - Групавы этап.
**21.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шлема. Адкрытае першынство Аўстраліі – Фінал. Мужчыны.
**22.15** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**22.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**22.45** Канькабежны спорт: Чэмпіянат Свету.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб’ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.45** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 4 серыя.
**08.10** Беларусы ў Польшчы.
**08.30** Зона «Свабоды».
**09.00** Еўропа сёння.
**09.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 15.
**09.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.50** Асабісты капітал.
**11.10** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**11.25** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**11.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.50** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Польскія казкі і паданні».
**12.25** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 4 серыя.
**12.50** «Час гонару», серыял: 5 серыя.
**13.40** «Польская кухня», серыял: 3 серыя.
**14.45** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча 1 серыя.
**15.30** Назад у будучыню.
**15.45** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Джамбібум».
**16.20** «Бандыт», драма, 1997 г., Польшча–Вялікабрытанія–Францыя–Германія.
**17.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.20** Невядомая Беларусь: «Прадвесне», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**18.55** Калыханка для самых маленькіх: «Польскія казкі і паданні».
**19.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Справа адмірала Канарыса».
**20.10** «Чукотка. Забытая армія», дак. фільм, 1997 г., Польшча–Германія.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт.
**21.55** Форум (ток-шоу).
**21.45** Фільматэка майстроў: «Прысуд Францішку Клосу», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**00.25** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 15.
**00.50** Два на два (тэледыскусія).
**01.15** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Гомель: (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8029) 364 42 60 Зінаіда.

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____
Время приема ____ ч. ____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ____
Всего ____

Кассир

ПРАЕКТ

# ЛАЦІНКА СУПРАЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ

Алег НОВІКАЎ

**Назарбаеўскі праект паскоранага пераводу казахскай мовы на лацінскі адфавіт стаў адной з асноўных тэмаў палітычнай дыскусіі ў Казахстане. Прапануем агляд казахскіх сайтаў і інтэрнэт-форумаў.**



Bykil çer çyzinin proletarları, birigindert!

SOTSIJALDЬ QAZAQЬSTAN

Çeke nomiri 10 tiьn REDAKSIJANЬN ƏDRESL Almatь qalasь, Gogil kecesi, № 41-yj.

Qazaq SSR-ьпьŋ Ortalьq Atqaruv Komijteti Prezijdyminiŋ qav

Qazaq SSR-ьпьŋ Konstijtutsijasь

Konstijtutsijasьпьŋ proekti tuvralь Konstijtutsija Komijssijasьпьŋ predsedatili-Mirzojan çoldastьŋ ѳajandamasьn tь

Komijtetiniŋ Prezijdymi qavlь etedi:

R-ь Konstijtutsijasьпьŋ, Qazaq SSR-ьпьŋ Ortalьq Atqaruv Komijteti Prezijdyminiŋ Konstijtutsija Komijssijasь çasa

Bykil Qazaqьstandьq Tѳtence X Sijeziniŋ qaravьna ѳerilsin.

Bykil Qazaqьstandьq Tѳtence X Sijezi 1937-çьlqь martьn 15-ne Almatь qalasьna caqьrьlsьn.

Qazaq SSR-ьпьŋ Ortalьq Atqaruv Komijtetiniŋ predsedatili

-kyni, 1937-çьl. Almatь qalasь Qazaq SSR-ьпьŋ Ortalьq Atqaruv Komijtetiniŋ sekretarь—

Калі верыць Назарбаеву, ужо ў 2025 годзе казахская мова будзе цалкам пераведзена на лацінку, а чытаць і пісаць на ёй будуць здольныя 95 працэнтаў казахаў. Нарэшце, за гэты час з'явіцца генерацыя маладых людзей, якая будзе камунікаваць выключна на казахскай мове. Сёння 20 працэнтаў жыхароў Казахстану складаюць этнічныя рускія, а сукупная доля рускамоўных жыхароў рэспублікі дасягае 85 працэнтаў.

Гэта не першая спроба ўладаў Казахстана кавалерыйскай атакай выйсці на новыя лінгвістычныя рубяжы. Пытанне пераходу на лацінку паднялі ў Казахстане яшчэ ў 1990-я гады на фоне хвалі нацыянальнага адраджэння і тагачаснага росту інтарэсу да панцюркісцкіх геапалітычных праектаў. Персанальна Назарбаеў упершыню прапанаваў разгледзець пытанне пра пераход на лацінку ў 2006 годзе. Аднак усё гэта не мела заўважных практычных вынікаў.

Акрамя таго, некаторыя аналітыкі пабачылі ў словах Назарбаева пра татальную «лацінізацыю» прыкметы шантажу на адрас Масквы. Выданне «Росбалт» піша: «Стылістыка гэтай заявы, якая падобная на адказ савецкага палітбюро дзяржсакратару ЗША, вельмі характэрная: раней прэзідэнт Казахстана выказваўся на падобныя тэмы больш дыпламатычна. Што стала прычынай змены тону, сказаць цяжка. Магчыма, леташнія ўнутрыпалітычныя няўдачы Уладзіміра Пуціна. Магчыма, няздольнасць Крамля абараніць свае інтарэсы ні на адным з геапалітычных кірункаў, ці гэта Сірыя, ці Прыднястроўе. Магчыма, рэзкі эмацыйны фон для гэтай заявы стварыла спрэчка вакол умоў выкарыстання Расіяй Байканура. Але, так ці інакш, Астана ўсё больш адкрыта паказвае зубы Маскве, і гэта цяжка не заўважыць».

Казахскія дзяржаўныя СМІ перапоўненыя каментарамі звычайных казахскіх працоўных, якія горача ад усяго сэрца дзякуюць любімаму прэзідэнту за лацінку. Тут жа можна даведацца пра асноўныя аргументы «за»: лацінка — гэта «інтэграцыя ў глабальную сучаснасць і ў сусветную эканамічную і навуковую прастору», «стварэнне больш спрыяльных умоваў для тэхналагічных інавацый», «змена савецкай (каланіяльнай ідэнтычнасці) на суверэнную (казахскую) ідэнтычнасць» і «ўмацаванне нацыянальнай ідэнтычнасці казахскага народа», «трансфармацыя мовы казахаў у мову сучаснай інфармацыі».

На самай справе, грамадства больш асцярожна паставілася да ідэі Назарбаева. Доказам таму — палеміка на інтэрнэт-форумах, дзе крытыкі праекта — у абсалютнай большасці. Іх аргументацыя перш за ўсё звязаная з тэзісам, паводле якога моўная праблема — не самая актуальная ў краіне. «Замест таго, каб сельскую гаспадарку падняць ці цяжкае машынабудаванне, якія паспяхова развалілі пасля Саюзу, яны 100 варыянтаў напісання ABCD прыдумляюць. Цырк», — піша нейкі Атэіст на форуме сайта Tengrinews.kz.

Шмат каго насцярожвае лацініца сама па сябе. На гэты конт існуе шмат забабонаў: «У казахскай мове на кірыліцы ёсць словы па 12–14 літар!! А на лацінцы для перадачы фанетыкі мовы будуць падвоеныя ці патроеныя літары, і колькі будзе літар у слове — па 17–20? Хто будзе дачытваць гэты серпанцін???» — абураецца блогер Мядзведзь на форуме таго ж сайту. Нарэшце, як заўсёды, з'явілася думка, што «лацінізацыя» — гэты выдумка нейкіх прайдзісветаў з мэтай развесці бюджэт. «Калі казахі не ведаюць сваю родную мову і не змаглі навучыцца размаўляць па-казахску за 20 гадоў, то як яны асвояць лацінку за такі кароткі тэрмін? Поўны маразм. Запусцілі чарговую піяр-кампанію, каб стрыгчы бабло», — піша ананімны аўтар на сайце газеты «Ак Жайык».

Хапае аматараў кірыліцы і сярод дэмакратаў: «Усе разумеюць, што Казахстан у выпадку старту «лацінізацыі» чакае не проста пераклад выбраных тэкстаў на лацінку, колькі каласальная па сваіх маштабах культурная і ідэалагічная зачыстка. Дзяржкамісія, якая павінна, па словах Назарбаева, вызначаць, якія кнігі перакласці на лацінку, будзе выконваць найперш функцыі цэнзара. Сайт Zona/kz у сувязі з гэтым прыводзіць прыклад Туркменіі. «Туркменія ўжо больш за 16 гадоў піша лацінскімі літарамі, а «воз» туркменскага прагрэсу «ўсё там жа». Самі ж туркмены, як і 20 гадоў таму, як і мы, казахі, усё таксама тупа б'юцца ілбамі пра пастаменты балванoў чарговых Туркменбашы».

Яшчэ адну фракцыю ненавіснікаў лацінкі складаюць... нацыяналісты, якія, здавалася б, павінны вітаць усё, што накіравана супраць змяншэння культурнага ўплыву Расіі. Ім не падабаецца, што пераход на лацінку ўлада часта разглядае ў рамках падрыхтоўкі да выставы ЭКСПО, якая адбудзецца ў Астане ў 2025 годзе. Арганізатарам здаецца, што лацініца вельмі спадабаецца гасцям. «А яшчэ да ЭКСПО під…саў сваіх трэба завесці — іншаземцы гэта любяць», — прапануе нейкі блогер-нацыяналіст. На думку шмат каго, спачатку трэба давесці справу папулярызацыі казахскай мовы (хоць у кірылічным варыянце), а ўжо пасля думаць пра яе лацінскую версію. Вось тыповая схема разважання прадстаўніка гэтага накірунку: «Асабіста я супраць такога пераходу, хоць і сам казах. На жаль, шмат хто кірыліцай піша з памылкамі, хоць і займае высокія пасады. А пасля пераходу наогул будзе жах! Давайце захаваем хаця б тое, што маем».

Ёсць шмат прыколаў, без якіх не абыходзіцца ніводная палітычная дыскусія. «Трэба перавесці казахскую мову на кітайскія іерогліфы. Кітайцы — суседзі. Ім прыемна будзе!» — прапануе блогер Госць. І не абышлося без вар'яцкіх, на першы погляд, альтэрнатыў. «Японскаму і кітайскаму вобразнаму мысленню (левае паўшар'е) адпавядае іерагліфіка, англійскаму вербальнаму мысленню (правае паўшар'е) — лацінка. Казахскае і рускае мысленні знаходзяцца ў пamежнай вобласці паміж вобразным і вербальным мысленнем і ім адпавядае... рунічная пісьменнасць! Давайце пяройдзем на руны, і нам не трэба пераходзіць на лацінку», — заклікае папулярны журналіст Сакен Жунусаў.

Актыў рускамоўнай грамады, зразумела, супраць лацінкі. Выданне «*Столетие*» піша: «Для Казахстана ўвядзенне лацінкі будзе мець значна больш сур'ёзныя наступствы. Пераход на лацінку непазбежна ўзмоцніць этнакультурныя адрозненні паміж казахамі і рускімі, а таксама выкліча ўзмацненне міграцыйнага адтоку рускіх і іншых еўрапейскіх этнасаў. У культурным плане адмова ад кірыліцы прывядзе да ўзмацнення адчужэння ад Расіі».

Заслугоўвае ўвагі агучаная тым жа выданнем думка пра тое, што казахская лацінка па сутнасці завочна ставіць крыжы на праекце рэінтэграцыі постсавецкай прасторы: «Інтэграцыя эканомік дзяржаў Мытнага саюзу і звужэнне паралельна яго гістарычнай цывілізацыйнай асновы — рускага свету — з'яўляецца адной з галоўных супярэчнасцяў фармавання гэтага аб'яднання».

Адзіная надзея казахскіх рускамоўных на тое, што кампанія лацінізацыі ў Казахстане праваліцца, як і ў суседнім Узбекістане. Там закон «Пра ўвядзенне ўзбекскага алфавіту, заснаванага на лацінскай графіцы» быў прыняты яшчэ ў 1993-м. Досвед 20 гадоў, хутчэй, негатыўны, паколькі мінусаў (зніжэнне ўзроўню пісьменнасці насельніцтва, цяжкасці з перакладам навучальнай і навуковай літаратуры і г.д.) апынулася значна больш, чым плюсаў.

З усяго гэтага можна зрабіць толькі адну выснову. Рэформы, якія праводзяцца пры аўтарытарным рэжыме, успрымаюцца насельніцтвам як нейкі падман. Нават калі фарсіраваны пераход на лацінку сапраўды пачнецца, казахам будзе патрэбна шмат часу, каб зразумець перавагі гэтага алфавіту ў эпоху глабалізацыі.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Уедлівыя назіральнікі не прамінулі заўважыць, што ў якасці крытэры адбору пры звальненні Аляксандр Лукашэнка назваў адданасць. «Той, хто верай і праўдай служыць дзяржаве і народу, павінен працаваць у дзяржаўным апараце», — заявіў ён. Такі падыход дае падставу казаць, што рэформа, сярод іншага, павінна запалохаць чыноўніка звальненнем. НГ і раней адзначала, што паступова беларускае чыноўніцтва, пастаўленае ва ўмовы немагчымага выканання нерэальных указанняў прэзідэнта, пачынае супраціўляцца. Сіла гэтага супраціву яшчэ зусім малая, але Лукашэнка, як заўсёды, працуе на апярэджанне, мяркуюць эксперты.

**«Независимая газета» (Расія)**

Павышэнне заробкаў і сацыяльных выплат у цэлым, як паказала практыка постсавецкага перыяду, суправаджаецца актыўным попытам на імпартныя тавары і замежную валюту. Асноўнымі спажыўцамі імпарту выступаюць зусім не абывацелі, а прадпрыемствы, але агонь крытыкі афіцыёзу пры гэтым накіраваны, у першую чаргу, на «непатрыятычных» грамадзян, якія аддаюць перавагу не беларускаму тавару, а лепшаму па спажывецка-якасных характарыстыках. У недаверы да «зайчыкаў» улады Беларусі могуць вінаваціць толькі сябе: ні ў адной краіне свету Новы год не асацыюецца з дэвальвацыяй; цяжка ўзгадаць краіну, дзе ў XXI стагоддзі курс нацыянальнай валюты за год зваліўся амаль у тры разы, дзе нацыянальная валюта так імкліва губляла функцыю грошай.

**«REGNUM» (Расія)**

У краіне склалася абсурдная сітуацыя. Усе разумеюць, што ідэалагічная кантралёры патрэбныя ў першую чаргу ўладам — як наглядчыкі за лаяльнасцю. Але пратэставаць ніхто не імкнецца. Да таго часу, пакуль грамадства моўчкі праглынае гэты прапагандысцкі гвалт, абвешчанае Лукашэнкам скарачэнне дзяржапарату наўрад ці закране «ідэалагічную вертыкаль». Так што, здаецца, эканоміць у Год беражлівасці давядзецца не чыноўнікам ад ідэалогіі, пазбаўленым наседжаных месцаў, а простым грамадзянам. І не па закліку ўлад, а ад беднаты. Таму што, нягледзячы на ідэалагічныя ўстаноўкі пра эфектыўнасць эканомікі, Беларусь апынулася на першым месцы ў СНД па росце цэнаў, а па пакупніцкай здольнасці ўвайшла ў дзявятку самых бедных краін Еўропы.

**«Deutche Welle» (Германія)**

«Крый Божа, губернатар прыедзе і ўбачыць, што штосьці не так, — павінна быць усім горача. Вось і ўсё! Тады будзе эфектыўнасць». У апошніх словах Лукашэнка мімаволі агаліў корань неэфектыўнасці беларускага дзяржапарату. «Крый Божа, губернатар прыехаў — усім будзе горача» лёгка трансфармуецца ў «Крый Божа, прэзідэнт прыехаў». Пакуль у Беларусі дзейнічае аўтарытарная вертыкаль улады на чале з Лукашэнкам, да таго часу чыноўнікі пад страхам звязаны і турмы будуць займацца не ўласцівымі ім функцыямі і да таго часу будзе актуальны анекдот пра тое, як «бацька» перабірае бульбу.

**«Республика» (Казахстан)**

Паводле Беларускай асацыяцыі журналістаў, сукупны тыраж усёй недзяржаўнай грамадска-палітычнай прэсы Беларусі нашмат меншы, чым цяперашні тыраж газеты «Советская Белоруссия». Аднак рэальная папулярнасць выдання ў жыхароў краіны нізкая. Уласна, тое, што адбываецца (аб'яднанне дзяржаўных газет у адну) лагічна вынікае з інфармацыйнай палітыкі ўлады. А дакладней, яе поўнага правалу. Сёння беларускія ўлады практычна губляюць кантроль над інфармацыйным полем краіны. Спроба сфармаваць дзяржаўную ідэалогію займела поўнае фіяска. У гэтых умовах утрыманне такой колькасці дзяржаўных газет — празмернасць. Тым больш, што самі выданні, мякка кажучы, вялікіх дасягненняў на ніве журналістыкі не дэманстравалі.

**«Газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАТАРСТАН. 2013 — ГОД ХАНА БАТЫЯ

Саюз нацыяналістычнай татарскай моладзі «Азатлык» абвясціў 2013-ы Годам Батыя і запланаваў серыю акцый, прысвечаных постаці мангольскага хана Батыя (1209–1256), які ўвайшоў у гісторыю сваім паходам на Русь, Волжскую Булгарыю і Усходнюю Еўропу. Як паведаміў лідар нацыяналістаў Наіль Набіулін, яго арганізацыя плануе рэгулярна праводзіць пікеты і мітынгі «ў гонар гадавіны спалення якога-небудзь рускага горада — Масквы, Разані, Суздаля, Уладзіміра, Казельска», раздаючы пры гэтым календары, паштоўкі і значкі з малюнкам заснавальніка Залатой Арды, якую сам Наіль лічыць «сапраўднай федэрацыяй, у адрозненне ад цяперашняй Расіі». «Праз такую фігуру, як хан Батый, мы ўздымем дух і нацыянальную самасвядомасць татараў», — паведамляе Набіулін. Ініцыятыва татарскіх нацыянал-сепаратыстаў выклікала рэзкі адпор у грамадскасці Паволжа. Так, лідар руху булгараў Руслан Лукманаш з Уфы заявіў, што падобная кампанія накіравана на абразу продкаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. ЧЫРВОНЫ ДЭНІ СЫХОДЗІЦЬ НА ПЕНСІЮ

Даніэль Кон-Бендзіт, лідар студэнцкай рэвалюцыі 1968 года ў Парыжы і бацька руху «Зялёных» заявіў, што сыходзіць з палітыкі. Нагадаем, што цяпер 67-гадовы Даніэль, якога за рыжыя валасы называюць Чырвоны Дэні, з'яўляецца дэпутатам Еўрапарламента ад французскіх «Зялёных». Кон-Бендзіт, безумоўна, легендарная фігура ў еўрапейскай гісторыі. Лічыцца, што менавіта студэнцкія беспарадкі 1968 года прымусілі дэ Голля падаць у адстаўку, не кажучы пра тое, што самі па сабе тыя падзеі сталі пачаткам нараджэння сучаснай еўрапейскай ментальнасці, якая пасля 1968-га ўключае ў сябе такія тэрміны, як «фемінізм», «экалогія», «павага да меншасцяў» і г.д. Між тым, сам Кон-Бендзіт кажа, што пенсія — не значыць адпачынак. Да пачатку Чэмпіяната свету ў Бразіліі ў 2014 годзе ён плануе зняць дакументальны фільм пра феномен бразільскага футболу пачатку 1980-х гадоў. У той час вядучыя бразільскія футбалісты публічна выступілі за ліквідацыю ў краіне рэжыму вайсковай дыктатуры, і ўлада ў тым ліку з-за іх патрабаванняў пагадзілася на пераход да дэмакратыі. Цікава, што напярэдадні заявы Кон-Бендзіта аб сыходзе з вялікай палітыкі ў Грэцыі правялі апытанне на тэму: хто варты быць прэзідэнтам краіны. Адпаведна вынікам, 20 працэнтаў грэкаў хацелі б бачыць на пасту прэзідэнта сваёй краіны менавіта Кон-Бендзіт.

**Паводле французскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. АПРАЎДАНЫ ГАЛІСІЙСКІ НАЦЫЯНАЛІСТ



З Карласа Калона, старшыні арганізацыі «A Mesa pola Normalizacion Linguistica», знята абвінавачанне за абразу суддзі. Апошні асуджаў галісійскіх нацыяналістаў за тое, што яны ігнаруюць афіцыйную тапаніміку. Абражаны суддзя патрабаваў ад Карласа 15 тысяч еўра ў якасці маральнай кампенсацыі. Справа распачатая год таму і закончылася толькі 11 студзеня, пасля таго, як суд пастанавіў, што нацыяналісты маюць права называць гарады і вёскі як заўгодна, паколькі гэта частка права на свабоду слова. На самай справе, праблема больш сур'ёзная, бо афіцыйнай мовай у рэгіёне застаецца іспанская. Галісійская мова, хаця і мае статус «другой мовы», амаль не ўжываецца як афіцыйная. Акрамя таго, паводле новых, прынятых у сувязі з крызісам законаў, яе ў будучым будуць вывучаць факультатыўна. Між тым, мясцовая адміністрацыя, якую фармуе правая Народная Партыя, прыдумала цікавы аргумент супраць лінгвістычных забабонаў тутэйшых нацыяналістаў. Чыноўнікі нагадваюць, што, напэўна, самы славуты галісіец у гісторыі — генерал Франка — заўсёды быў праціўнікам рэгіянальных моваў і ў часы дыктатуры праводзіў палітыку моўнай асіміляцыі ўскраін Іспаніі.

**Паводле іспанскай прэсы**

### МАЛДОВА. СВЯТКАВАННЕ САМАЙ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ

Малдаўскія патрыёты адсвяткавалі гадавіну бітвы пры Васлуе, якая адбылася 10 студзеня 1475 года. У гэты дзень малдаўскі князь Стэфан III Вялікі разбіў 120-тысячнае войска турак, маючы толькі 40 тысяч салдат. Каб нагадаць землякам пра гэтую буйную падзею, у цэнтры Кішынёва прайшоў мітынг патрыётаў з арганізацыі «Eu sint Moldovan». Пасля мітынгу некалькі дзясяткаў маніфестантаў прайшліся па галоўнай вуліцы да манумента князя. Акрамя лозунгаў у гонар Малдовы, маніфестанты заклікалі прыняць новую канстытуцыю краіны, у аснове якой будзе ідэалогія «малдавінізм» — падтрымка ўсяго малдаўскага. Тое, што дата для святкавання — не круглая, арганізацыя «Eu sint Moldovan» малавядомая, а саму акцыю піярылі ўсё левыя сайты, дае падставу падазраваць, што справа тут нячыстая. Як вядома, апошнім часам камуністы спрабуюць гуляць на нацыяналістычных настроях у барацьбе з прыхільнікамі інкарпарацыі Малдовы ў склад Румыніі (за гэта выступае шмат сяброў цяперашняга малдаўскага ўраду). Таму не выключана, што акцыя 10 студзеня была проста замоўлена імі з тактычных задач.

**Паводле малдаўскай прэсы**

▸ **ЦІКАВА**

# САМЫ ВЯЛІКІ САКРЭТ РЭЙГАНА

***Алег НОВІКАЎ***

**Трыумф фільма «Аперацыя Агро» (рэжысёр Бен Афлек) выклікаў інтарэс да гісторыі з захопам амерыканскага пасольства ў Тэгеране ў 1979 годзе. Магчыма, гэта дапаможа праліць святло на яшчэ адну загадку гісторыі.**



Калі прыкладна пару тыдняў таму былі абвешчаныя намінанты на «Оскар», большасць кінакрытыкаў рабіла стаўкі на фільм «Лінкальн» (рэжысёр Стывен Спілберг). За ім ішла стужка «Жыццё Пі». Шансы стваральнікаў фільму «Аперацыя Арго» лічыліся невысокімі. Аднак 13 студзеня, пасля раздачы прызоў прэстыжнай прэміі «Залаты глобус», каціроўкі змяніліся. «Аперацыя Арго» прызнана лепшым фільмам года і цяпер разглядаецца як галоўны прэтэндэнт на «Оскар».

Дадатковай адзнакай поспеху карціны сталі навіны з Тэгерану, дзе фільм назвалі «інспірацыяй д'ябла». Іранскія ўлады заявілі, што гісторыя, якую распавядае карціна, — стоадсоткавая хлусня. Нагадаем, сюжэт базіруецца на незвычайнай аперацыі пад назвай «Арго», якую ў 1979 годзе правяло ЦРУ ў Іране. Агенты вывезлі з краіны, дзе панавала антыамерыканская істэрыка, шэсць супрацоўнікаў амерыканскага пасольства, якім падчас штурму будынка ў лістападзе 1979 года ўдалося збегчы і схавацца ў рэзідэнцыі канадскага пасла.

Там яны сядзелі амаль паўгода, пакуль іх не выцягнулі з Тэгерану пад выглядам здымачнай групы нейкага галівудскага навукова-фантастычнага блокбастара. Дарэчы, каб у стражаў аховы рэвалюцыі не ўзнікла падазрэнняў, у Галівудзе сапраўды ішла імітацыя здымак фільму. У тым ліку з дапамогай гэтай «ліпы» «здымачнай групе» ўдалося выехаць з Ірану.

На думку іранцаў, усё было не так. Праўду гледачы ўбачаць у фільме «Генерал Стаф» (The General Staff). Стужку здымае іранскі рэжысёр, які сказаў, што «гэта будзе адэкватны адказ на антыгістарычны паклёп пад назвай «Арго».

Тое, што «Арго» не цягне на чыстую праўду, зразумела. Не паспеў фільм выйсці на экраны, як МЗС Новай Зеландыі выказала пратэст. У фільме згадваецца пра тое, што дыпламаты гэтай краіны не пусцілі да сябе амерыканцаў. На самай справе, новазеландцы прапанавалі ім сховішча. Аднак тыя, перш за ўсё па прычынах бяспекі, вырашылі хавацца ў канадцаў.

Як бачым, новай інфармацыі пра крызіс закладнікаў, дзякуючы выходу «Арго», з'яўляецца цяпер вельмі шмат. У тым ліку ёсць надзея, што гэта дапаможа праліць святло на адну цёмную справу, звязаную з той падзеяй. Гаворка пра тэорыю, адпаведна якой у 1980 годзе аятала Хамейні і Рональд Рэйган рэалізавалі сумесны план — не пусціць Джымі Картэра на другі тэрмін, выкарыстаўшы для гэтага крызіс з закладнікамі.

Падставы для такой версіі, якая называецца «October Surprise», дала падзея 20 студзеня 1981 года. У гэты дзень Рональд Рэйган у Вашынгтоне прайшоў цырымонію інагурацыі і стаў афіцыйна 40-м прэзідэнтам Злучаных Штатаў. Праз 20 хвілін пасля заканчэння яго інаўгурацыйнай прамовы Тэгеран выпусціў 52 амерыканскіх дыпламатаў, якіх утрымліваў на працягу 444 дзён. Супадзенне? Магчыма, аднак менавіта няздольнасць ЗША вызваліць суайчыннікаў падкасіла рэйтынг Картэра. Дарэчы, яшчэ ў снежні 1980 года першыя падазрэнні пра магчымыя кантакты Рэйгана і Хамейні выказала арганізацыя грамадзянскіх актывістаў «La Rouche movement», якая праводзіць незалежныя даследаванні і маніторынг ураду.

Тое, што адбывалася далей, яшчэ больш умацавала падазрэнні аматараў «October Surprise». Пасля прыходу да ўлады адміністрацыя Рэйгана пачала праз Ізраіль прадаваць у Іран зброю і адразу разблакавала банкаўскія рахункі Ірану ў амерыканскіх банках.

З'явіліся плёткі, што смерць партугальскага прэм'ера Франсішку Мануэля Лумбраліш дзі Са Карнейру таксама звязаная з гэтай справай. У пятніцу, 4 снежня 1980 года, самалёт прэм'ера згубіў вышыню, уразаўся ў сцяну аднаго з дамоў у партугальскім гарадку Камаратэ і загарэўся. За некалькі дзён да трагедыі партугалец, быццам, распавёў сябрам, што бачыў дакументы, якія сведчаць пра супрацоўніцтва Рэйгана і Хамейні. Па словах міністра, ён рыхтаваў з гэтай нагоды даклад, які хацеў прачытаць з трыбуны ААН.

Хаця на працягу 1980-х гадоў шматлікія выданні спрабавалі даследаваць «October Surprise», сапраўдныя следства пачалося пасля таго, як выбухнула афера «Іран Контрас» (буйны палітычны скандал, які разгарэўся напрыканцы 1986 года, калі стала вядома пра тое, што некаторыя сябры адміністрацыі Рэйгана арганізавалі таемныя пастаўкі ўзбраення ў Іран, парушаючы тым самым эмбарга супраць гэтай краіны).

Тыя, хто спрабаваў разабрацца ў дэталях, натуральна, хацелі ведаць, адкуль і як пачалі супрацоўнічаць Рэйган і Хамейні. Натуральна, узгадалі пра тэорыю «October Surprise». Тым больш, што пачаў размаўляць Абальхасан Банісадр (першы прэзідэнт Ірана, дэмакратычна абраны адразу пасля Ісламскай рэвалюцыі 1979 года). Пасля канфлікту з Хамейні ў 1981 годзе ён быў вымушаны збегчы з Ірану, угнаўшы самалёт кампаніі ВВС. У эміграцыі палітык сеў за мемуары, якія выйшлі ў 1991 годзе. У іх ён таксама ўзгадвае пра размову з атачэннем Хамейні ўвосень 1980-га. Абальхасан Банісадр піша: «Яны заключылі дамову з Рэйганам пра тое, што заложнікі не будуць вызваленыя да таго, як Рэйган не стане прэзідэнтам».

Банісадра выклікалі ў Вашынгтон на пасяджэнне следчай камісіі. Таксама камісія заслухала шмат сяброў выбарчай каманды Рэйгана і афіцэраў разведкі. У выніку, аднак, ніхто не быў прыцягнуты да адказнасці. Усе абвінавачанні былі знятыя з-за адсутнасці прамых доказаў.

Тым не менш, праца камісіі дазволіла журналістам скласці магчымую храналогію афёры «October Surprise». Такім чынам, у сакавіку 1980 года менеджар кампаніі Рональда Рэйгана, будучы дырэктар ЦРУ Уільям Кейсі прызначае сустрэчу Джамшыду Хашымі, сусветна вядомаму гандляру зброяй з Блізкага Усходу. Па версіі журналістаў, Кейсі прасіў у яго кантакты нейкіх дзяржаўных асоб у Іране, якія маюць дачыненне да справы з закладнікамі. У красавіку гандляр вяртаецца з Ірану і сустракаецца з групай людзей Рэйгана. Ён кажа, што ўстанавіў сувязь з патрэбнымі асобамі, якія гатовыя да кансультацый.

Наступная сустрэча адбываецца ў ліпені ў Мадрыдзе. Тут з Кейсі размаўляе адзін з лідараў ісламскай рэвалюцыі Мехдзі Карубі. Амерыканец кажа, што будучая адміністрацыя будзе ўдзячная, калі дыпламатаў пратрымаюць да прызначаных на лістапад прэзідэнцкіх выбараў. Карубі перадае тэкст прапановы Хамейні, і той дае згоду. У рамках дамовы 21 кастрычніка, фактычна напярэдадні выбараў, Тэгеран нечакана прыпыняе перамовы наконт закладнікаў, наносячы такім чынам фатальны ўдар па прэстыжу Джымі Картэра як кандыдата на пасаду прэзідэнта. Вось такая версія.

Як бачым, матэрыялаў тут на цэлы серыял. Прычым з працягам. Як лічаць актывісты «La Rouche movement», шведская прэм'ера Улафа Пальме забілі ў 1986 годзе таксама за тое, што ён занадта шмат ведаў пра «October Surprise».

ПАЛЕМІКА

# РЭАБІЛІТАЦЫЯ ГЕРЭКА: ЗА І СУПРАЦЬ

Алег НОВІКАЎ

**З-за настальгіі па эпосе Эдварда Герэка практычна сарваная 150-я гадавіна святкавання нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 года, менавіта так лічаць польскія правыя.**



Калі паглядзець польскія СМІ, відавочна, што больш увагі на яе старонках сёння надаецца не падзеям 1863 года, а правакацыйнай ініцыятыве партыі «Саюз левых дэмакратаў» (SLD) абвясціць 2013-ы годам Герэка (Эдвард Герэк нарадзіўся 6 студзеня 1913-га). Сярод іншага SLD, дарэчы, прапануе і назваць адну з плошчаў каля чыгуначнага вакзала «Варшава Цэнтральная» ў яго гонар.

Прапанова крамольная, паколькі афіцыйная гістарыяграфія бачыць у Герэку камуніста, марыянетку Масквы і г. д. Рэабілітацыя Эдварда Герэка, на думку шматлікіх палітолагаў, можа пацягнуць паўзучую рэвізію падручнікаў.

Тое, што былыя камуністы ўхапіліся за асобу Герэка, цалкам лагічна. З прозвішчам Герэка ў польскай гісторыі звязана эпоха імклівага росту стандартаў жыцця, сацыяльнай бяспекі, індустрыялізацыі. Цяпер цяжка нават уявіць, што калісьці, а дакладней пры Герэку, Польшча ўваходзіла ў дзясятку самых індустрыяльна развітых краін свету. Аднак і без таго статыстычныя вынікі дэкады Герэка 1970–1980 гадоў (час, калі Эдвард Герэк быў першым сакратаром Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі (PZPR)) папросту ўражваюць: створана 2,5 мільёны рабочых месцаў, пабудавана 2 мільёны кватэраў, заснавана за 600 буйных прадпрыемстваў. Узровень спажывання палякаў вырас амаль удвая.

І тут узнікае парадокс. Польскія правыя лічаць 1970-я гады, наадварот, чорнай старонкай у гісторыі краіны. Дастаткова ўзгадаць, што якраз пры Герэку ў канстытуцыі Польскай Народнай Рэспублікі з'явіўся ганебны артыкул пра сяброўства Польшчы з СССР. Ніводны ўсходнееўрапейскі сатэліт Масквы не даходзіў да такой ступені маніфестацыі лаяльнасці. Не кажучы пра пераслед дысідэнтаў. Якраз пры Герэку спецслужбы перайшлі сімвалічную мяжу ў стаўленні да палітычных апанентаў — забілі ў Кракаве ў 1977 годзе студэнта-апазіцыянера Станіслава Пыяса. Яшчэ раней, у 1968 годзе, Герэк праславіўся як адзін з самых актыўных удзельнікаў кампаніі супраць студэнтаў, якія арганізавалі антыўрадавыя маніфестацыі. Будучы кіраўніком секцыі PZPR у Селезіі, ён публічна абяцаў студэнтам, што шахцёры пераламаюць ім усе косткі. Увогуле, сваю партыйную кар'еру Эдвард пачаў у 1948 годзе, калі ў краіне панаваў махровы сталінізм.

Што тычыцца бліскучай эканамічнай статыстыкі, то правыя і лібералы нагадваюць, чаго яна каштавала краіне. Толькі ў кастрычніку мінулага года Польшча цалкам расплацілася па пазыках, якія ў пачатку 1970-х гадоў нахапаў на Захадзе Герэк. Замежныя тэхналогіі, якія ў той час набывала Варшава, часта былі састарэлыя. Аб'екты прамысловасці, якія будаваліся, былі ўпісаныя ў структуры СЭУ (Савет Эканамічнай Узаемадапамогі) — усходнееўрапейскага аналагу Агульнага рынку. Таму з пачаткам інтэграцыі Польшчы ў міравую гаспадарку яны аказаліся ў крызісе. Нарэшце, эра Герэка, як вядома, закончылася масавымі сацыяльнымі пратэстамі ў 1980 годзе. Інакш кажучы, пра які росквіт у тыя часы можна казаць?

Праўда, на ўсе гэтыя аргументы ў апанентаў адразу ёсць свае. Калі гаворка ідзе пра састарэлыя тэхналогіі, то яны ўзгадваюць цяперашні парк самалётаў нацыянальнай польскай кампаніі LOT. Парк у тым ліку складаецца са старых амерыканскіх машын маркі F–16, некаторыя з якіх ужо сышлі з вытворчасці. Іншымі словамі, карпаратыўнае лобі было ўплывовае як тады, так і цяпер, умудраючыся прадаваць урадам састарэлую тэхніку.

Што тычыцца падхалімства перад Саветамі (гэта з рук Герэка Брэжнеў атрымаў польскі ордэн Вялікі Крыж за вайсковыя заслугі — Virtuti Militari), то ўсё гэта левыя спрабуюць трактаваць як нейкі тактычны манеўр. Быццам, менавіта за падобныя крокі Брэжнеў выдаў Герэку індульгенцыю на свабоду дзеянняў унутры краіны. Можна ўзгадаць, што здымаць адзін з самых антысталінскіх фільмаў у гісторыі «Чалавек з мармуру» Анджэя Вайду блаславіў якраз цэнтральны камітэт PZPR Герэка. І ўвогуле, кажуць левыя, трэба згадаць, што Польская Народная Рэспубліка не ўзялася з неба. Згоду на яе стварэнне Сталін атрымаў у Ялце ад Чэрчыля і Рузвельта. Таму трэба было вызнаваць палітычныя рэаліі і дзейнічаць зыходзячы з таго, што можна было дасягнуць у такіх умовах.

Напэўна, самы цікавы і незвычайны тэзіс левых — заклік узважыць на вагах гісторыі вынікі палітыкі пасляваеннай апазіцыі і працы тых, хто адбудоўваў Польшчу з руінаў. Як кажа Лешак Мілер, кіраўнік SLD: «Чаму Катынь або «праклятыя жаўнеры» (партызаны АК, якія змагаліся і пасля 1945-га) сталі міфамі ў цяперашняй Польшчы? Чаму ім не можа быць Эдвард Герэк? Чаму мы шануем тых, хто нёс смерць палякам пасля вайны, забываючы пра тых, хто адбудаваў Польшчу, а ў 1970-х гадах мадэрнізаваў? Смешна, што Дмоўскага (лідар польскіх правых 1920–1930-х гадоў) запрашаюць у нацыянальны пантэон, а Герэка пазбаўляюць такога права».

Магчыма, пазіцыя левых у гэтых дэбатах выглядае больш салідная з прычыны таго, што лідары вядучых польскіх правых партый самі публічна прызнаваліся ў любві да Герэка. Так, лідар кансерватараў Яраслаў Качыньскі прагаварыўся, што бачыць у Герэку «камуністычнага патрыёта», і заклікаў яго сына ў сваю каманду падчас выбараў прэзідэнта. Спяваў дыфірамбы на адрас Герэка і Дональд Туск — прэм'ер, лідар ліберальнай партыі «Грамадзянская платформа». Ён пазітыўна згадаў інвестыцыйную палітыку Герэка. Па сутнасці, гэта былі свядомыя спробы інструменталізаваць Герэка, час праўлення якога, паводле апытанняў, большасць палякаў лічаць «залатым векам».

Аднак развязка гэтай палемікі вакол Герэка аказалася проста непрадказальнай. Па ходу таго, як у польскай прэсе ўсё часцей узгадвалі Герэка, пачаўся нефармальны кастынг наконт таго, хто з польскіх цяперашніх палітыкаў нагадвае былога партыйнага бонзу. Па ходу апытанняў высвятлілася, што тыя, хто ідэалізуе Герэка, як правіла, галасуюць за правых. На іх думку, больш за ўсё на Герэка падобны… Яраслаў Качыньскі, які культывуе імідж простага чалавека кансерватыўных поглядаў. Сціплым чалавекам у побыце быў і Герэк. Затое менш за ўсё Герэка палякам нагадвае… Лешак Мілер.

І ў гэтым ёсць логіка. Як вядома, галоўная хваля эканамічнай лібералізацыі польскай гаспадаркі мела месца менавіта ў часы кабінета Мілера. Мілер таксама прывёў Польшчу ў NATO. Пра ўсё гэта цяпер таксама імкліва ўзгадалі. Адпаведна, шмат хто з левых сумняваецца ў тым, што SLD увогуле мае маральнае права выкарыстоўваць спадчыну Герэка. У дадатак з'явілася фракцыя левых, якія лічаць, што выкліканне духу першага сакратара PZPR хутчэй сведчыць пра крызіс ідэй у кіраўніцтва SLD. Напрыклад, уплывовы лева-ліберальны часопіс «Polityka» назваў кампанію SLD за рэабілітацыю Герэка «разагравannем учарашніх катлет».

**Артыкул падрыхтаваны пры падтрымцы Амбасады Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### НАТАЛЛЯ КАРАЛЕЎСКАЯ

Каралеўская — новы міністр сацыяльнай палітыкі Украіны. Яе прызначэнне ў склад ураду ўвогуле можна лічыць сенсацыяй, паколькі выбарчая кампанія яе партыі «Україна, наперад» праходзіла пад апазіцыйнымі лозунгамі (праўда, у апазіцыйнасць Наталлі мала хто верыў, паколькі праект фінансаваў алігарх Рынат Ахметаў). Такое рэнаме не дазволіла партыі «Україна, наперад» прайсці ў Вярхоўную Раду нават з улікам таго, што Каралеўская ангажавала ў свае партыйныя шэрагі славутага футбаліста Андрэя Шаўчэнку. Але ў выніку ў снежні «апазіцыянерку» зрабілі міністрам. І тут пачаўся новы скандал. Паводле законаў Украіны, як толькі кагосьці прызначаюць міністрам, той павінен здаць у апарат Кабінета міністраў пакет дакументаў, у тым ліку арыгінал дыплому пра заканчэнне ВНУ. Замест гэтага Каралеўская 23 снежня піша заяву ў адзін з РАУСаў Луганску пра тое, што 9 снежня яе дыплом пра заканчэнне мясцовага Усходнеўкраінскага ўніверсітэту скралі на вуліцы. Заява адразу выклікала мноства інсінуацый. Увогуле, цяжка сабе ўявіць, каб Наталля ў статусе пратэжэ Ахметава ўвогуле хадзіла пешшу па вуліцах. І тым больш, маючы пры сабе дыплом ВНУ, які ніводнаму злодзею не патрэбны. На думку большасці каментатараў, ніякую ВНУ Каралеўская як дачка алігархаў не заканчвала, аднак фармальна яна ўсё ж мае вышэйшую адукацыю. Яе альма-матэр была створана на базе Машыннага інстытута Луганску, пра які ў савецкі час хадзіў анекдот: «Каб не закончыць Машынны інстытут, трэба, каб цябе пераехаў трамвай». Папросту сам дыплом ёй ніколі не быў патрэбны, і, адпаведна, яна нават не знайшла часу яго атрымаць. Але цяпер фармальна ўзнікла патрэба ў паперцы, якой не аказалася пад рукой, адсюль і ўзнікла гісторыя пра крадзеж.

### АБДЭЛЬ АЗІЗ БУТЭФЛІКА



Прэзідэнт Алжыру падтрымаў ініцыятыву Францыі ўвесці войскі на поўнач Малі для барацьбы з ісламістамі. Наступствам такога рашэння стала закрыццё мяжы паміж Алжырам і Малі. Французскія ВПС таксама змогуць выкарыстоўваць алжырскія аэрадромы для атак на тэрыторыі Малі. Раней лічылася, што афіцыйны Алжыр будзе больш асцярожны ў тым, каб надаваць Парыжу падтрымку ў вайне з ісламістамі. Хаця Алжыр не будзе дасылаць свае войскі ў Малі (адмова ад інтэрвенцый лічыцца адной з асноў знешнепалітычнай дактрыны краіны), хуткая падтрымка ваяўнічых планаў Парыжу выклікала жывы рэзананс на старонках афрыканскіх СМІ. Уплывовае алжырскае выданне «El-Watan» сцвярджае, што крок Бутэфліка звязаны з тым, што шэраг плямён Малі, якія былі саюзнікамі Алжыру, перайшлі ў апошні час на бок ісламістаў. Іншыя лічаць, што Алжыр папросту спалохаўся таго, што французскі іншаземны легіён пераможа паўстанцаў-ісламістаў, і тады Францыя зможа дыктаваць сваю палітычную павестку дня ў Малі без удзелу Алжыру. А прэса Нігерыі піша, што Алжыр за кошт Парыжу хоча ўключыць Малі ў падкантрольную сабе зону і падарваць рэгіянальны аўтарытэт Нігерыі. У любым выпадку, усё будзе залежыць ад развязкі вайсковых дзеянняў. У першыя дні вайны на фронце, здаецца, нічога асаблівага не адбывалася. Ісламісты, быццам, праводзяць перадыслакацыю, а французы і іх малійскія саюзнікі канцэнтруюць сілы.

### НАТАЛЛЯ БАСКАВА



Яшчэ ў снежні мінулага года Баскава, дэпутат чалябінскай гарадской думы, прапанавала выдаць закон, які абавязаў бы ўсіх расійскіх жанчын выйсці замуж і нарадзіць хоць бы адно дзіця да дасягнення 20-гадовага ўзросту. У дадатак да абавязку мець дзіця да 20 гадоў Наталля Баскава заклікала змагацца з вобразам гламурнай прыгажуні, які прапагандуюць сродкі мас-медыя, што, на яе думку, не спрые развіццю сямейных каштоўнасцяў. Ідэю Баскавай палічылі экзатычнай. Так, «Известия» ўвогуле прысудзілі Баскавай тытул самага экстравагантнага дэпутата 2012 года. Аднак аказалася, што ў Баскавай шмат прыхільнікаў. За апошнія пару тыдняў прагучала яшчэ нямала аналагічных па духу заканапраектаў. Да прыкладу, дэпутат Заканадаўчага парламента Санкт-Пецярбурга Віталь Мілонаў прапанаваў увесці вайсковы абавязак для жанчын, якія не нарадзілі дзіця да 23 гадоў. А віцэ-губернатар Пензенскай вобласці Уладзімір Сацін прапанаваў... зацвердзіць план па зачацці: «Нам трэба прынцыпова паглядзець на паляпшэнне дэмаграфічнай сітуацыі. Патрэбна новая ідэалогія, новы метадалагічны падыход. Мы павінны ўвесці план па родах. Аж да плану па зачацці». Пакуль цяжка зразумець, чым выклікана такое захапленне праблемамі дэмаграфіі на месцах.

ЛЁСЫ

# ГЕНАДЗЬ ДРАЗДОЎ — ГРАМАДЗЯНІН І МАСТАК

У яго жывапісе і графіцы злучаюцца постмадэрнізм і сакральнасць. Ён прымае ўдзел у шматлікіх нацыянальных і міжнародных пленэрах, выставах на радзіме і за мяжой, у тым ліку ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, Бельгіі, Германіі, ЗША, Нарвегіі, Польшчы і Расіі, з'яўляецца аўтарам канцэптуальных праектаў «Фэст беларускага духоўнага мастацтва», «Перформанс вясны» і «Артрэйтынг».

Творы мастака знаходзяцца ў Нацыянальным гістарычным музеі, Нацыянальнай бібліятэцы, у прыватных айчынных і замежных зборах. Яго творчасць высока ацэнена ў Беларусі і за яе межамі. Так, артыкул пра Драздова ўключаны ў нямецкую 80-томную энцыклапедыю «Мастакі ўсіх часоў і народаў». Мастак узнагароджаны дыпломам I ступені на II Мінскай міжнароднай выставе графікі.

Генадзь Драздоў узначальвае суполку «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў. Цікавіцца музыкай і паэзіяй. Ягоныя мудрасловї і кампазіцыі на гітары западаюць у душу. З'яўляючыся прыхільнікам беларускай аўтакефаліі, вялікую ўвагу надае справе адраджэння нацыянальнай праваслаўнай царквы.

Разам з сябрамі, мастакамі Рыгорам Сітніцам і Яўгенам Шатохіным, на ягонай яхце «25 сакавіка» вандраваў па Чарнобыльскай зоне, пра што кінарэжысёр Уладзімер Колас зрабіў дакументальна-публіцыстычны фільм «Белы ветразь над Прыпяццю».

Падчас нашых сустрэч і размоў я распытваў Генадзя Драздова пра яго жыццё і творчасць.

**Марат Гаравы**



Генадзь Драздоў у майстэрні

**Генадзь ДРАЗДОЎ:**

«Стылістычна-вобразны строй прац сваіх я вызначаю як трансцэндэнтны сімвалізм. Спалучэнне абстрактна-вобразнага мыслення з элементамі рэалістычна-антытэзавых аплікацый, сінтэз ірэальна-трансцэндэнтнага і рэальна-метафарыстычнага ёсць уласцівасць майго мастацкага мыслення»

## Дзяцінства

Я нарадзіўся 11 сакавіка 1959 года ў вёсцы Паддуб'е Журавіцкага сельсавета Рагачоўскага раёна, што на Гомельшчыне. Хутар Паддуб'е быў заснаваны на пачатку 1920-х гадоў выхадцамі з наваколляў мястэчка Журавічы ды вёскі Хатоўня. Так званымі раскулачанымі. Аднавяскоўцы былі ў добрасуседскіх адносінах і падчас масавай калектывізацыі шкадавалі адзін аднаго. Вось чаму, калі па партыйна-савецкай разнарадцы трэба было некага раскулачыць, людзі прапаноўвалі найбольш працавітым і заможным сялянам, сярод каторых у калгаснікаў было шмат сваякоў, з'ехаць на недалёкі хутар. Гэта дазваляла паставіць «галачку» ў спісе раскулачаных з пазнакай «выселены на хутар».

З цягам часу перасяленцы асушылі балоты, парабілі гаці, асвоілі новыя землі, і ў Паддуб'і паўсталі 35 двароў. Зараз, на жаль, іх там засталося ўсяго некалькі. Мясціны вельмі прыгожыя — навокал некранутая прырода Палесся: вялікія раўнінныя палі з магутнымі шматвяковымі дубамі-волатамі, балоты, возера і рэчка Гутлянка — прыток Дняпра.

Так што дзяцінства маё прайшло з рыбалкай, купаннем і цікавымі прыгодамі на пашы, куды пryганялі коней на начлег. Звычайна каля магутных дубоў мы раскладалі вогнішча і рабілі феерверкі: вялікімі цвікамі прабівалі дзіркі ў бляшанках з-пад кансерваў, насыпалі гарачых вугольляў, прыкручвалі да іх кавалкі дроту, а затым кідалі ў гору. Іскрыстая бляшанка ляцела да зямлі з жудасным выццём, якое завяршалася страшэнным выбухам з адмысловым снапом іскраў…

У школу я хадзіў у Журавічы, дзе некалі былі сінагога, дзве малітоўныя габрэйскія школы, царква і касцёл XVI стагоддзя, дзе ў 1651 годзе пакланяўся цудадзейнаму абразу Маці Божай сам кароль польскі і вялікі князь ВКЛ Ян II Казімір. На жаль, да нашага часу нічога з помнікаў старасвеччыны не захавалася. Пасля Чарнобылю ўвесь гэта край патроху занепадае…

Бацькі былі прафесіяналамі сваёй справы ад Бога: тата — краўцом, а маці — швачкай. Да іх прыязджалі людзі з усёй Гомельшчыны. Я малым вельмі любіў паслухаць іх аповеды пра дзяцінства, службу ў войску і ўдзел у войнах, а таксама ўспаміны сваякоў сталага веку па мацярынскай лініі — дзеда Лаўрэна і бабулькі Мар'і Кісялёў. Ад дзеда — героя Першай сусветнай вайны, ушанаванага дзвюма срэбранымі крыжамі за храбрасць, што быў вядомым сталярам і цесляром, — да гэтай пары ў вёсцы Пахар захаваўся зрублены ім хлеў у панскім бровары. Дарэчы, з павагі да яго майстэрства, дзеда нават не забралі на савецка-фінскую вайну, хаця ён прынцыпова адмовіўся працаваць у саўгасе.

Бабулька была чалавекам веруючым і вельмі мудрым, бо казала, што мы — госці на гэтай зямлі, і ведала, адкуль яна, хто яна і навошта існуе ў гэтым свеце. Хаця яна закончыла ўсяго толькі два класы царкоўна-прыходскай школы, я лічу, што яна была мудрэй за любога прафесара. У 1941 годзе дзед Лаўрэн загінуў, і бабулька Мар'я адна гадавала шасцёра дзяцей. У гады ваяўнічага атэізму, калі пакаленні людзей адышлі ад Бога, яна смела і рашуча адстойвала сваю веру, але ж — тонка, тактоўна і талерантна, а не па-жлобску нахрапіста. Менавіта яна зрабіла мяне веруючым чалавекам. Я да гэтага часу ўзгадваю вялізны камень ля плота, на якім мы сядзелі, і я зачаравана слухаў голас сваёй бабці: «Памятай, унучак, што ёсць на свеце Бог, і ты павінен шанаваць яго, разумець гэта і кожны дзень маліцца».

**Ларыса ФІНКЕЛЬШТЭЙН:**

«Трагедыйнае мастацтва Генадзя Драздова прасякнута аптымізмам, магутнасцю, манументальным адчуваннем Сусвету і падзеі, як з'явы»

Потым мне заўсёды шанцавала на людзей сталага веку, якія добра ведалі і любілі айчыннае мінулае. Падчас сталінізму нашу вёску перайменавалі ў Сталіна, а пасля развянчання культу асобы, вярнулі ранейшую назву. Калі я вучыўся дзесьці ў трэцім класе Журавіцкай сярэдняй школы, настаўнік матэматыкі Леў Саламонавіч Альшэўскі нагадаў мне, што мая вёска зноў называецца Паддуб'е. Прычым сказаў пра гэта так настойліва, што я задумаўся. З таго выпадку пачаўся мой шлях да крытычнага пераасэнсавання савецкай гісторыі Беларусі.

Са словамі «вялікаму караблю — вялікае плаванне» Леў Саламонавіч выклікаў мяне да дошкі рашаць найбольш складаныя матэматычныя задачы. Прычым, ён такі цікава тлумачыў алгебру і геаметрыю, а я так уважліва слухаў, што дома мне заставалася толькі прагледзець новы матэрыял. Так я палюбіў веды і прызвычаіўся да штодзённай працы на ўроку. А строгасць і патрабавальнасць настаўнікаў прывучылі мяне і па жыцці вырашаць няпростыя задачы. Дарэчы, узровень навучання ў нашай школе быў такі высокі, што большасць выпускнікоў паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.



Хор моладзі спявае каля трыпціха Генадзя Драздова падчас яго выставы ў Гродна

## Шлях у мастацтва

Мастацтвам пачаў цікавіцца з дзяцінства. У чатыры гады я адмовіўся наведваць дзіцячы садок, бо мне было там сумна, нецікава калупацца ў пясочніцы і выконваць загады выхавацелькі. І бацькі сталі пакідаць мяне дома аднаго. Я любіў сядзець каля вакна, разглядаць вуліцу праз запацелае шкло і пальцам маляваць на ім дзіцячыя фантазіі…

Дарослыя падтрымалі маё захапленне і хвалілі, а бацькі сталі купляць мне алоўкі і акварэльныя фарбы. З цягам часу я з заплюшчанымі вачыма на заклад мог ужо даволі добра намаляваць алоўкам партрэт Уладзіміра Леніна ў профіль. Мае аднакласнікі дзівіліся і пляскалі ў далоні… Дзесьці ў восьмым класе я пачаў хадзіць на эцюды і маляваць алеем, нават зрабіў сабе эцюднік. У дзявятым класе «захварэў» мастацтвам настолькі, што стаў уцякаць са школы і дрэнна вучыцца. А паколькі мне ніхто не мог даць прафесійныя парады ў жывапісе, нават патлумачыць, як нацягнуць палатно на раму, як зрабіць і пакласці грунт, як маляваць алеем, у 1975 годзе я вырашыў паступіць у Мінскую мастацкую вучэльню імя Аляксея Глебава.

Пасля ўступнага экзамену, на якім даволі добра простым алоўкам намаляваў нацюрморт, мяне залічылі ў вучэльню. Жыў на кватэрах і ў інтэрнаце, вучыўся з захапленнем, якое даходзіла да фанатызму. Найбольшы ўплыў на мяне зрабілі вядомыя ўжо тады беларускія мастакі Віктар Маркавец, Аляксей Марачкін і Іван Чухраеў. Першы навучыў мяне пісаць сучасна і імпрэсіяністычна, пры гэтым бачыць у святле паўтоны і нюансы. Менавіта дзякуючы яму я па-новаму асэнсаваў жывапіс, стаў пісаць свяжэй, яркімі колерамі, з адчуваннем моцнай дынамічнай формы.

Маркавец і Марачкін далучылі нас да творчасці выбітных майстроў нацыянальнага мастацтва Алены Кіш і Язэпа Драздовіча, прапанавалі рэстаўраваць іх працы. Цёплыя, вельмі блізкія да вясковага жыцця творы гэтых мастакоў з наіўнымі і простымі сюжэтамі вельмі падабаліся мне і выразна адрозніваліся ад высокага акадэмічнага жывапісу, якому нас навучалі.

Менавіта Маркавец і Марачкін сталі маімі духоўнымі настаўнікамі, далучылі да скарбаў айчыннай гістарычнай і мастацкай спадчыны, што вельмі паўплывала на маё станаўленне як мастака і грамадзяніна. Падчас вучобы навучыўся граць на гітары, а пазней — на флейце. Сябраваў са светлай памяці Сяржуком Цімохавым, Генадзем Мацурам і Пётрай Русаком. Менавіта ўчацвярых у 1979 годзе мы зрабілі шыкоўны дыпломны праект Музея народнай творчасці ў закінутым памяшканні Мураванкаўскай Свята-Раства-Багародзіцкай царквы-фартэцыі першай траціны XVI стагоддзя — найпрыгажэйшага помніка айчыннага абарончага дойлідства гатычна-рэнесанснага стылю ў Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці. Дарэчы, мой дыплом вёў

Іван Чухраеў, які чытаў курс фармальнай кампазіцыі і ўнутранай структуры мастацкіх твораў.

Потым я працаваў у Гомелі галоўным мастаком СКБ сейсмічнай тэхнікі і ў атэлье побытавай рэкламы, дзе разам з Алегам Рабіновічам распрацавалі ўзор вітражу з алюмініевага профілю. Мы былі першымі і, бадай, адзінымі на Беларусі, хто вырабляў такія вітражы па ўнікальнай аўтарскай тэхналогіі, каторую мы самі з Алегам і распрацавалі.

Пасля службы ў войску, з 1983 года па 1989, вучыўся на аддзяленні станкавай графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. З вялікім задавальненнем асвойваў тэхнікі літаграфіі і афорту пад кіраўніцтвам Віктара Мікіты і Уладзіміра Савіча. Але ж галоўным маім настаўнікаў быў і ёсць Бог. Акрамя вучобы, выкладаў у дзіцячай мастацкай студыі ў Вяснянцы.

З дынамічнага і хвалюючага часу перабудовы найбольш запомніліся далучэнне да «Талакі» і адраджэнне традыцыйных народных святаў — Каляды, Гуканне Вясны і Купалле, стварэнне першага беларускага скансэна — Музея народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Строчыца, вандроўкі з сябрамі ў Вільню, Маскву і Ленінград дзеля знаёмства з мастацкімі зборамі і выставамі выбітных мастакоў, у тым ліку з арыгінальнымі творамі Марка Шагала, Казіміра Малевіча і Васіля Кандзінскага.

У інтэрнаце жыў увесь час у адным пакоі з Алесем Пушкіным, з якім пазней пасябраваў і дапамагаў яму ў падрыхтоўцы першага антыкамуністычнага перформансу, што адбыўся каля акадэміі 25 сакавіка 1989 года на святкаванне 71-х угодкаў БНР. Натхнёныя чарговай хваляй нацыянальнага адраджэння, мы адчулі сябе гаспадарамі на сваёй зямлі і пасля затрымання Пушкіна дабіліся яго вызвалення ў выніку моцнай кампаніі пратэсту. Дарэчы, трэба аддаць належнае рэктару, прафесару Анатолю Сабалеўскаму, які ахвяраваў сваёй кар'ерай, але не паддаўся ўціску начальства і не выключыў Пушкіна з акадэміі.


Генадзь Драздоў — «Пакінуты беларускі дом»

Потым з сябрамі мы ўдзельнічалі ў шматлікіх мітынгах і шэсцях, дзе можна было атрымаць і дубінкай па галаве. Разам з Аляксеем Марачкіным з вялікім захапленнем рабілі мастацкае афармленне гэтых вулічных акцый. Чаму ў 1991 годзе абрынуўся СССР, пра што год таму ніхто не спадзяваўся? На мой погляд, менавіта Бог уключыў свой механізм, аддаў загад — і ўсё пакацілася як па наезджанай дарожцы… Нездарма кажуць, што Бог доўга цярпіць, а затым моцна б'е. Ён гаспадар, і ведае ўсе, у Яго свая логіка, яна таямніца для нас — людзей.

### Творчасць

Пасля таго, як мы дамагліся незалежнасці Беларусі, я заняўся выключна мастацтвам. Першым цікавым праектам, у якім я прыняў актыўны ўдзел пасля заканчэння акадэміі, стала мастацкая акцыя 1991 года вядомага беларускага паэта Алеся Разанава з правакацыйнай назваю ЗБАНАБЗ. Тады я зладзіў перформанс, у якім спалучаліся музыка і выяўленчае мастацтва. Гэта быў першы ў краіне прэцэдэнт стварэння сінтэзаванага мастацкага твору ў рэжыме «тут і зараз». Да гэтага праекта я напісаў жывапісны твор «Рэхаформ».

**Рыгор СІТНІЦА:**

«Драздоў адносіцца да тых унікальных айчынных мастакоў, каторыя натхняюцца тварэннем Усявышняга і ствараюць сваю непаўторную рэальнасць, якая цёпла прымаецца і прызнаецца нармальнымі людзьмі. Мастак разумее сваю місію на зямлі як служэнне Богу, Айчыне і нацыі. Менавіта яе майстар прэзентуе ў вечнасці і прасторы. Яго мастацтва вельмі прасветленае, аптымістычнае і беларускае ў лепшым сэнсе гэтага слова. Некалі разам з Генадзем Драздовым мы былі ў Чарнобыльскай зоне і спрабавалі зразумець, што адбылося, адбываецца і будзе з намі. Мы мяркуем, што наша Радзіма заслужыць у Неба лепшую долю, але для гэтага трэба шмат працаваць».

Менавіта з стварэннем гэтага глыбокага філасофскага і наватарскага па форме твора я і нарадзіўся як мастак. Дарэчы, словастварэнне «рэхаформ» вельмі ўпадабаў Алесь Разанаў і потым выкарыстоўваў яго ў сваіх творах.

У 1995 годзе ў сталічнай галерэі «У Максіма» я прэзентаваў сваю першую персанальную мастацкую выставу «Формафор Рэхаформ Душаформ» і зладзіў на ёй перформанс. Сэнс яго быў у тым, што ў лодку, якая сваёй формай нагадвала абрысы чалавека, усе жадаючыя клалі цыдулкі з пажаданнямі і пасланнямі ў бясконцасць. Лодку я спусціў у Свіслач, у вечнае вандраванне. Нагадаў удзельнікам перформансу прынцып рэха: гук адбіваецца ад перашкоды і вяртаецца назад са спазненнем і скажэннем. І падкрэсліў: той, хто рабіў свой пасыл з верай, што бясконцасць — гэта жывая разумная рэчаіснасць, створаная Прысутнасцю Бога і адухоўленая Ім, абавязкова атрымае адказ-рэха.

У перформансе закладзены галоўны творчы прынцып «покліч—водгук». Дзякуючы ўжыванню гэтага прынцыпу як вельмі ёмістай вобразнай мастацкай метафары, я расцэньваю той перформанс як адзін з найбольш удалых у сусветнай артпрасторы.

У 1999 годзе адбыўся «Фэст беларускага духоўнага мастацтва» ў Нацыянальным гістарычным музеі. Гэты праект, арганізаваны мною на ўласныя сродкі, стаў першай спробай на постсавецкай прасторы, дзе больш за 70 год панавала атэістычная сатанінская ідэалогія, сабраць разам творы мастакоў, якія засталіся вернымі высокім духоўным хрысціянскім ідэалам.

У 2012 годзе я правеў другі такі ж фэст з дапамогаю Беларускага саюзу мастакоў. А мастацкі праект «Артрэйтынг», зладжаны мною ў мінскай галерэі «Золата» ў 2001 годзе, цікавы тым, што менавіта па выніках гэтай выставы ўпершыню на Беларусі было праведзена рэйтынгавае галасаванне, і пераможца вызначыўся шляхам падліку бюлетэняў, запоўненых наведвальнікамі. Па выніках галасавання пераможцамі сталі Сяргей Рымашэўскі, Сяржук Цімохаў і Генадзь Драздоў.

Сёння глабалізаваны свет навязвае гледачу свае ідэомы мульцікультуралізму, якія адлюстроўваюць фінансавыя інтарэсы бізнэсоўцаў і з'яўляюцца разбуральнымі для монаэтнічных культур. Нацыянальныя ж каштоўнасці, як дар Божы, павінны заставацца прыярытэтам кожнай нацыі дзеля захавання яе адметнасцяў і самаідэнтыфікацыі.

Вось чаму я і мае сябры па суполцы «Пагоня» стаім на грунце нацыянальных каштоўнасцей, папулярызуем іх праз выставы, пленэры, публікацыі і выступы, адстойваем сваё творчасцю і грамадскім чынам.

Вось чаму ў нашых творах ажываюць вобразы нашых нацыянальных герояў і геніяў, у тым ліку Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Язэпа Драздовіча і Вінцэнта Гадлеўскага.

Вось чаму 2 верасня гэтага года ў Смаргоні разам з сябрамі Алесем Пушкіным, Валянцінам Варанішчам, Уладзімірам Шульжыцкім і Алесем Цыркуновым мы ўшанавалі памяць расстралянага 27 кастрычніка 1950 года пад Вілейкай кіраўніка Мядзельска-Смаргонскага антыкамуністычнага падполля Расціслава Лапіцкага, за што я быў аштрафаваны на 3 мільёны рублёў.

Вось чаму я настаяў на тым, каб «Пагоня» ігнаравала працэдуру вылучэння калег па Беларускаму саюзу мастакоў на дзяржаўныя ўзнагароды, бо за апошнія 18 гадоў ніводзін сябра суполкі не быў ушанаваны дзяржавай.

Мастак — гэта асоба, якая атрымоўвае ў спадчыну талент як дар Божы і вылучаецца ад іншых сваім непадабенствам у мысленні і творчасці. І для мяне вельмі важна, якім чынам мастак скарыстае свой талент, якую таямніцу перакажа людзям, якім відовішчам усцешыць прагных і чым ахвяруе дзеля Творцы і ісціны.

**Падрыхтаваў Марат Гаравы**

**КУДЫ ІДЗЕШ, МАЯ КРАІНА**

# НЕ АБОЕ РАБОЕ

**Віталь ВОРАНАЎ**

**Перачытваю Кузьму Чорнага. Так, па многіх параметрах ён быў пісьменнікам савецкім. Але ці не забываемся мы ў сваім прысудзе пра фактар часу?**




У вялікім шасцітомным выданні твораў ёсць шмат тэкстаў пра перавагу рэвалюцыі над старой царскай сістэмай. Усходняя Беларусь малюецца Чорным у цёплых, ідэалізаваных колерах, у той час як Заходняя Беларусь, знаходзячыся пад панаваннем панскай Польшчы, цярпіць нясцерпны прыгнёт і здзекі. Час, які ў асноўным апісвае пісьменнік, пакрываецца з часам ягонага кароткага жыцця (1900–1944), то бок з рэвалюцыямі, Першай сусветнай вайной і міжваенным дваццацігоддзем. Мы ж, абагульняючы гэтыя надзвычай складаныя перыяды беларускай гісторыі, рэдка бярэм пад увагу аспект эвалюцыйнасці новага ладу. Беларусізацыя БССР 1920-х і сталінскі тэрор 1930-х гадоў — толькі адзін са шматлікіх прыкладаў такой неаднароднасці. Больш за тое, у неасцярожным катэгарызаванні нярэдка дамінуе ацэнка з перспектывы тыпова постсавецкай думкі, з улікам усіх адмоўных тэндэнцый і абрачонасці савецкай сістэмы ад яе пачатку да самага канца. Не заўжды, аднак, бяруцца ва ўвагу чыннікі псіхалагічныя, сацыялагічныя ці філасафічныя.

Ацэнка такіх падзеяў, як 17 верасня 1939 года, працягвае быць далёкай ад аднадумства нават сёння. Што ўжо казаць пра асэнсаванне гэтых падзеяў у час, калі не было ніякіх альтэрнатыўных крыніц інфармацыі. Было б нелагічным асуджаць за памылковасць гістарычнай ацэнкі пісьменніка, які на працягу васьмі месяцаў перад гэтымі падзеямі зведваў катаванні ў савецкім арышце, а ў хуткім часе пасля гэтага і амаль да канца свайго жыцця знаходзіўся па-за межамі бацькаўшчыны. Нават самім жыхарам Заходняй Беларусі, некаторыя з якіх спачатку віталі Саветы як вызваліцеляў, спатрэбіўся пэўны час на асэнсаванне сапраўднага аблічча сістэмы, з яе прымусовай калектывізацыяй, чысткамі і Сібірам.

Літаратура — гэта не падручнік па гісторыі. Тыя, каго прынята называць «савецкімі пісьменнікамі», у сваёй большасці не маглі быць ані прарокамі, ані аналітыкамі падзеяў. Гэта пакаленне празаікаў і паэтаў, якім з-за цяжкасцяў эпохі проста не дадзена было здабыць сістэмнай, свабоднай ад ідэалогіі адукацыі. Тое што больш за ўсё характарызуе гэтую генерацыю творцаў, — талент, бясконцая адданасць і дасканалае валоданне беларускім словам. Ну а калі ўлічыць, што іх ацэнка камунізму — гэта вынік памылковага мыслення інтэлігентных і праніклівых людзей, то іх творы набываюць асаблівую, пазачасавую і універсальную вартасць.

Хто, напрыклад, з сучасных пісьменнікаў застрахаваны перад тым, што апетыя імі здабыткі заходняга лібералізму не набудуць у будучыні рысаў таталітарнасці? Відаць, што ніхто, нягледзячы нават на адносную, але абсалютна непараўнальную даступнасць у атрыманні інфармацыі і адукацыі. Ніхто, аднак, дакладна не ведае, як дасягненні нашай эпохі будуць ацэненыя з перспектывы часу. Асуджаючы на страты пісьменнікаў, якія ў свой час памылкова ацанілі камунізм, сучаснікі рызыкуюць быць адпрэчаныя нашчадкамі сістэмы, якая няўхільна прыйдзе на змену нашай. Для параўнання, на да абсурду карэктным Захадзе наўрад ці каму, прынамсі на акадэмічным узроўні, магло б прыйсці ў галаву спісваць на страты пісьменнікаў, якія ў свой час захапіліся ідэямі нацыянальнага сацыялізму. Аўтараў такіх было процьма, а сярод найбольш вядомых, такія класікі, як Эзра Паўнд, Томас Эліят, ці Уільям Батлер Ейтс.

Адпаведна, у нашай ацэнцы беларускай літаратуры савецкага перыяду, павінна дамінаваць асцярожнасць, з асаблівым улічваннем праблемы класіфікавання. Шмат якія творы таго часу належаць да нашага літаратурнага канона, і пацясніць вялікіх пісьменнікаў можна выключна метадам напісання лепшых твораў.

АГЛЯД

# БЕЛАРУСКАЕ КІНО ПЕРАД НОВАЙ ЗАГРУЗКАЙ

Андрэй РАСІНСКІ

**Леташняя канская ўзнагарода, да якой атрымалася далучыцца, сецевыя кінапрэм'еры, першыя фільмы студэнтаў і сыход Аляксандра Колбышава — гэтыя чыннікі будуць вызначаць беларускае кіно ў 2013 годзе.**

## Самая значная стужка

Самая значная стужка 2012 года, што мела дачыненне да Беларусі, — «У тумане» Сяргея Лазніцы. Фільм быў пастаўлены паводле аднайменнага апавядання Васіля Быкава. Карціна, якая атрымала прыз канскай кінапрэсы ды неўзабаве была паказаная на «Лістападзе», — гэта адна з найлепшых экранізацый Быкава. Але ўдзел беларускага боку — мінімальны. Яго, увогуле, магло і не быць — што, зрэшты, не перашкодзіла б фільму, знятаму пераважна на нямецкія грошы, з'явіцца.

«Беларусьфільму», які пачэсна ёсць у цітрах, папросту пашанцавала заскочыць у апошні вагон. Хаця студыя, што сядзіць без грошай, зрабіла стаўку на сумесную прадукцыю аўтарскага кіно, нічога падобнага на фільм Лазніцы сёлета не прадбачыцца. Што да прыватнай кінавытворчасці, то яна пакуль не запрацавала, хаця намёкі на яе дзейнасць з'явіліся.

У любым выпадку, ад канскіх — і якіх-небудзь іншых статусных прэм'ераў — Беларусь можа адпачыць, прынамсі, гадоў сем.

## Самы абяцальны фэст

Самым абяцальным сёлетнім кінафэстам быў «Бульба-муві», што праходзіў у Варшаве другі год запар. На яго запрашаліся маладыя творцы, якія робяць першыя крокі ў кіно. На фэст даслалі пад 60 заявак з самых розных куткоў Беларусі — у паказах удзельнічала 19 карцін. Здзівіла разнастайнасць: былі ігравыя і дакументальныя фільмы, анімацыя і сацыяльныя ролікі, меладрама, прысвечаная на хрысціянскую тэму, і нават спробы кінафантастыкі.

Паказальна, што рэй вялі аўтары, не звязаныя з дзяржаўнымі інстытутамі: карціны студэнтаў Акадэміі мастацтваў выглядалі самымі «тэхнічнымі», але самымі нежывымі. Уганараваны дакументальны нарыс Арцёма Лобача «Простыя рэчы» быў зняты на ўласныя сродкі, неігравая стужка Алеся Лапо «Вандроўнік не вернецца» ствaралася як дыплом паўгадавой кінашколы, а Андрэй Палупанаў, які прадставіў сацыяльны ролік «Жыццё ў клетчатай торбе», сам арганізаваў «Мінскую кінашколу».

Далёка не ўсё ў мастакоў атрымлівалася. Але маштаб імпэтнае кінатворчасці, што расце, як трава — паўсюль і стыхійна, — дае надзею, што працэс не спыніцца, і пануры асфальт бязвіднага беларускага кіналандшафту нарэшце будзе ўзламаны.

## Самы цікавы праект

Новыя творы мусяць абапірацца на кінагісторыю — і праект «Тузін. Немаўля», прыдуманы Сяргеем Будкіным, даў гэтай гісторыі другі подых. Нямыя беларускія карціны 1920-х гадоў «Прастытутка», «Кастусь Каліноўскі» і «У агні народжаная» былі агучаныя жывой музыкай — для сучаснай публікі.

Падляшскі гурт «Po&Friends», гурт «Рэлікт» і беларускі музыка Сяргей Пукст прапанавалі для старых стужак сваё музычнае — і вельмі неардынарнае — прачытанне. Прэм'ера была абкатаная ў Беластоку, а ў Мінску наведнікі арт-кавярні тры дні цешыліся незвычайным відовішчам.

Цікавасць да беларускага кіно не згасае і, калі ўсе чыннікі складуцца добра, можна чакаць новых праектаў.

## Самая цікавая тэндэнцыя

Кінапрэм'еры ў сеціве — новая тэндэнцыя беларускага кіно. Запачаткаваў яе фільм «Вышэй за неба» Андрэя Курэйчыка і Дзмітрыя Марыніна. Стужка, знятая на грошы Праграмы развіцця ААН у Рэспубліцы Беларусь, мусіла абмежавацца серыялам, што распавядае пра ВІЧ. Стваральнікі карціны разыгралі сацыяльную рэкламу як актуальнае жыццё беларускай моладзі — пад партрэтам вусатага прэзідэнта, уплішчылі забароненых музыкаў і прапанавалі дадаткова асобны ігравы фільм. Зляканыя чыноўнікі здымачную групу распусцілі, матэрыялы забралі, але чарнавы варыянт так і не ўзгодненай карціны 8 чэрвеня 2012 пратачыўся ў сеціва.

З таго часу карціна абрасла ўдзячнай публікай пад чвэрць мільёна гледачоў-піратаў і, нягледзячы на перыядычныя знішчэнні, пачуваецца вельмі добра.

Для ісландскай групы «Sigur Rys», што абвясціла сецевы адбор лепшага кліпа на сваю музыку, беларускі рэжысёр Руслан Фядотаў зняў медытатыўны твор з брутальна-дзівацкімі вобразамі. Хаця гурт аддаў перавагу іншай — мінімалістычнай кампазіцыі, сецевая аўдыторыя ўпадабала беларускі кліп.

Нарэшце, летась рэжысёр Кірыл Нонг, які год адвучыўся ў Нью-Ёрку, зняў са сваімі беларускімі сябрамі жывы і іранічны баявік. 50-хвілінны фільм з гелікоптэрам, спецназам, пагонямі на машынах абышоўся ў 2 650$ — але выглядае недасягальна галівудскім для груваcткага «Беларусьфільму», не гаворачы ўжо пра тэлевізію. Рэжысёр праявіў надзвычайную вынаходлівасць: спецназ сыгралі знаёмыя гульцы ў страйкбол, камеру прычапілі на машыну — і здымалі пагоні на мінскіх вуліцах, паскараючы рух на мантажы, а гелікоптэр арандавалі на 15 хвілінаў.

Гісторыя пра сяброў, якія здымаюць шпегаўскі баявік і раптам сутыкаюцца з сапраўднымі агентамі, занадта вялікая для кароткага метру і занадта малая для поўнага, але гэта не замінае фільму быць адным з самых яскравых беларускіх дэбютаў.

Прэм'еру карціны Кірыл Нонг зладзіў адразу ў сеціве.

Беларускае сеціва пашыраецца.

## Жаўнер варты арміі

29 ліпеня 2012 года нечакана памёр акцёр і рэжысёр Аляксандр Колбышаў. Ягоны зухаватыя выхваляка Штыркін з «Акупацыі» і святар-паўстанец з «Масакры» — трагікамічныя персанажы з двайным жыццём, якім цяжка знайсці аналагі ў айчынным кіно. Суворыя, акадэмічныя «Ваўкі» пра ўцёкі са сталінскага ГУЛАГу былі рэжысёрскай працай Колбышава, выверанай і дакладнай у маральных ацэнках.

Колбышаў, які добра ведаў цану праўды, даваў годны прыклад прафесійнага і чалавечага служэння. Гэта самы энергічны баец беларускага кіно, варты цэлай арміі — і замяніць яго няма кім. Рэжысёр прапанаваў высокую традыцыю кінематографа.

Усе, хто прыйдуць на змену, будуць іншымі.

КІНО

# ТРЫ СМЕРЦІ «ГАННЫ КАРЭНІНАЙ»

Андрэй РАСІНСКІ

**Брытанскі фільм «Ганна Карэніна», пастаўлены Джо Райтам паводле сцэнару Тома Стопарда — адна з найпрэтэнцыёзных прэм'ераў апошняга часу.**

Сама меней як 25-я экранізацыя Льва Талстога вылучаецца падкрэсленай тэатральнасцю, умоўным кадрам з рухомымі дэкарацыямі і багатай пазалотай. Сакрэт карціны, цэласнай у сваёй штучнасці, — тры ганаровыя смерці, невыносныя для адных гледачоў і шчасныя для астатніх.

Першая смерць зададзеная самім Львом Талстым. Справа не ў гераіні, кінутай пад колы цягніка: Карэніна ўздыхае, чырвона-дыяментавыя пырскі святла, вытанчана-пекныя шпалы. Ідэя, што працінае творы Талстога, — гэта штучнасць дый змярцвеласць чалавечых інстытутаў, што вымагае звярнуцца да народнай, жывой прыроды.

Але ў фільме — штучнае ўсё. Штучная Кіра Найтлі ў ролі Карэнінай, якая торгаецца, як развінчаная лялька з пазаламанымі рукамі і белым тварам; штучны Вронскі (Аарон Тэйлар-Джонсан) — салодкі фацэт з асветленымі валасамі; штучны Карэнін — як ні дзіўна, самы жывы персанаж у фільме, — але і ягонае жыццё, сыгранае Джудам Лоў, тоне ў суцэльным тэатры.

Левін (спісаны Талстым з сябе самога і ўвасоблены Домналам Глісанам) аніяк не здольны з гэтага тэатру ўцячы. Так, ён выходзіць з гарадскіх дэкарацый у поле, але ў гэтым полі рускія песні спяваюць з моцным англійскім акцэнтам, румяныя сяляне разыгрываюць чарговае прадстаўленне, а кажух выглядае цытатай, уплюшчанай у радок пра «народнасць». Адстароненасць, якой любіў карыстацца Талстой, каб выкрыць несапраўднасць, знайшла і дабіла самога графа.

Другая смерць — гэта смерць «вялікай рускай літаратуры» і «Расійскай імперыі». Імперскі тэатр Джо Райта і Тома Стопарда — гэта механічны куфэрак, дзе няма ўжо нічога жывога, але які яшчэ можна выгадна прадаць на рынку сусветнага антыкварыяту.

Густы папяровы снег, шыкоўнае футра, карункавая вуаль, бліскуча-белыя сукенкі, насценная абэцэда з «гусляром» і «баярамі» — гэта лоты аўкцыёну, на якім плаціць глядач, каб пабачыць муміфікаваную «духоўнасць» і забытую «прыгажосць». Сярод усіх рэчаў самыя дарагія — завадныя калектыўныя кампазіцыі. Вось чыноўнікі харэаграфічнымі рухамі штампуюць паперы, кіруе гэтай зручнай механікай Карэнін, сухі, як смерць у незламаным гадзінніку. Вось Ганна і Вронскі танчаць на балі пад натхнёна-ўрачыстую музыку Дарыа Марыанэлі — белыя, чырвоныя, апельсінавыя сукенкі, анфілады — іншыя танцоры застываюць, каб потым завесціся ізноў. А вось скачкі на штучным іпадроме — Вронскі на кані прадказальна праваліваецца ў тэатральную яму. Гукі і зыкі — гэта мелодыі музейных лялек, якіх даўно не выпускаюць, але іхнія спружыны яшчэ здольныя расціскацца.




**«ГАННА КАРЭНІНА» (Anna Karenina)** Вялікабрытанія, 2012, каляровы, 129 хв.
**Рэжысёр:** Джо Райт
**Ролі выконваюць:** Кіра Найтлі, Джуд Лоў, Аарон Тэйлар-Джонсан, Келі МакДоналд, Мэцью МакФэйдэн, Домнал Глісан, Рут Уілсан
**Жанр:** драма паводле аднайменнага раману Льва Талстога

Трэцяя смерць — гламурны спачын постмадэрнізму (дзіўна чакаць ад Тома Стопарда іншага падыходу). У фільме знак на знаку сядзіць і алегорыяй паганяе. Раскіданыя на падушцы валасы Кіры Найтлі — як локаны Медузы Гаргоны, пасяджэнне Дзяржаўнай Рады (дададзена да Талстога) — з карціны Рэпіна, шматпакутны цягнік паўтараецца дзіцячаю цацкай, а цацка становіцца цягніком.

Пафас збіваецца на іронію, калі ва ўзнёслым кадры з'яўляецца тэатральная прыбіральшчыца, але нават яе швабра выглядае высокастатусна. Карціна — шчыльная кічавая расстаноўка вакол пустаты, інкруставаная дарагімі артэфактамі.

Гледачу прапануюць невыноснае: быць зачараваным ледзяной тэатральнаю магіяй і з ціхмянай ironіяй назіраць за канвульсіямі ўласнага цела.

Гандлёвы цягнік прыйшоў, паны і паненкі! Ваша чарга заняць месца пад коламі!

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 69

Падпісана да друку 18.01.2013. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.